ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 35 (2497)
ПЯТНІЦА
29
мая 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 3 кап.

# 1 ЧЭРВЕНЯ—МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ



У кожнага шчаслівы твар,
І позірк бystралётны.
О, колькі руху, колькі мар
У птахаў бесклапотных.

Іх шлях да сонца і да зор,
У мірны свет шырокі.
Для іх — нязведаны прастор:
Лугі, лясы, аблокі.

Іх засланяе ад нягод
Радзіма шчодрай ласкай.
Дык хай няспынна з году ў год
Жыццё іх будзе казкай!..

Рыгор НЯХАЙ

# ЗДРАДНІКІ

«Ілжэрэвалюцыянеры без маскі»— так называўся ў «Праўдзе» артыкул аб здрадзе сучасных кіраўнікоў Кітая не толькі свайму 700-мільённаму народу, але камуністычнаму і рабочаму руху ўсяго свету. Шматпакутны кітайскі народ зноў трапіў у няволю. На гэты раз да сваіх «багоў» — Мао Цзэ-дуна і Лінь Бяо. Пекінскія ўзурпатары, што пры дапамозе арміі сталі паўнаўладнымі гаспадарамі вялікай краіны, ператварылі яе ў суцэльную казарму, разагналі законныя органы ўлады, кампартыю і камсамол, творчыя саюзы, адкінулі народ да эпохі сярэдневякоўя. Усё творчае жыццё ў краіне замерла.

Хіба не здзекліва, не па-сярэдневяковаму гучаць словы «мудрага» Мао Цзэ-дуна, што «чым больш чалавек чытае, тым дурнейшым ён робіцца»? Не дзіўна, што, апрача цытатнікаў «вялікага кормчага», у краіне не выдаецца мастацкая літаратура, не ствараюцца кінафільмы, не працуюць музеі і бібліятэкі. Гэта жахлівы здзек з культуры ў цывілізаваны дваццаты век. Так паводзілі сябе хіба толькі гітлераўцы ў акупіраваных краінах, калі палілі кнігі, а ў школах размяшчалі канюшні.

Не пашкадаваў «вялікі кормчы» і маладое пакаленне. Ён гаворыць, што «школы — гэта маленькія скляпы, якія паўсямесна патыхаюць злом, і мелкія сажалкі, што кішаць чарапахамі», «курс навук можна зрэзаць напалавіну» і г. д. Як тут не прыпомніць агульнавядомую праграму гітлераўскіх фашыстаў, якія збіраліся ў выпадку сваёй перамогі вучыць дзяцей акупіраваных краін толькі чатыром правілам арыфметыкі, чытаць і пісаць. На гэтым адукацыя канчалася. Такая паралель напрошваецца сама сабой. Дзіўна толькі адно: то была праграма акупантаў, а гэта праграма чалавека, які лічыць сябе правадыром свайго народа.

Ваенныя салдафоны, якія нічога не разумеюць у навуцы, кіруюць універсітэтамі, кантралююць работу прадпрыемстваў і ўстаноў, стараюцца зрабіць усё, каб кітайцы былі «паслухмянымі буйваламі».

Арміяй гэтай запраўляе Лінь Бяо. А дзе праслаўленыя рэвалюцыйныя палкаводцы Кітая? Іх, напэўна, знішчылі, бо яны былі сапраўднымі рэвалюцыянерамі, змагарамі за новы сацыялістычны Кітай. Цяпер маоцзэдунаўскія недавяркі мараць аб вайне. У першую чаргу — супраць Савецкага Саюза. Гэтая вялікая і жорсткая здрада другу кітайскага народа, які не на словах, а на справе, крывёю савецкіх салдат і афіцэраў даказаў сваю дружбу. Наўрад ці справіўся б Кітай сваімі сіламі з інтэрвентамі і чанкайшыстамі, калі б Савецкая Армія ў 1945 годзе магутным ударам не разграміла японскую Квантунскую армію ў Маньчжурыі, не дапамагла кітайскай Народна-вызваленчай арміі ваеннай тэхнікай і саветнікамі. Хто ўдзельнічаў у баях супраць Квантунскай арміі, той памятае, з якой цеплынёй і непадкупнай сардэчнасцю сустракаў кітайскі народ савецкіх воінаў. А цяпер супраць іх, супраць савецкага народа нацкоўваюць кітайскі народ, выдумляючы ўсялякую лухту. Хочацца верыць, што кітайскі народ думае інакш, толькі ён, прыгнечаны ваеннай дыктатурай, масавымі расправамі над сапраўднымі патрыётамі, баіцца адкрыта выказаць свае думкі, хавае іх у сэрцах.

Аказваецца, «вялікі кормчы» ў вялікім сакрэце пры дапамозе заходнегерманскіх вучоных стварыў атамную бомбу. Гэта вельмі небяспечная справа, калі ўлічыць выказванні Мао, што ён гатовы ахвяраваць жыццём мільёнаў людзей, каб дасягнуць сваёй мэты. Мы яшчэ і цяпер, праз 25 гадоў, аплакваем кожнага воіна, што аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, а ён гатовы хоць сёння спаліць у агні вайны сотні мільёнаў людзей. Гэта жахліва.

У адным з нумароў часопіса «Кітай» я са здзіўленнем убачыў такі каляровы фотаздымак — на плошчы ў вышыню трохпавярховага дома ўзвышаецца партрэт Мао Цзэ-дуна, а перад ім, схіліўшы галовы, стаяць на каленях сотні тры юнакоў і дзяўчат, нібы ў малітве. Гэта яны аддаюць даніну свайму «вялікаму кормчаму». Не хапала толькі німба над галавой «бога».

Наўрад ці гэта ідылія падобна на праўду! Апошняе слова—за кітайскім народам. Мы ўпэўнены ў гэтым.

## ад пятніцы да пятніцы

### СУСТРЭЛІСЯ З ВЫБАРШЧЫКАМІ





Максім Танк, Пятрусь Броўка... Народныя паэты Беларусі. Гэтыя імёны ведае кожны, хто чытае, хто любіць беларускую літаратуру, хто любіць сапраўдную паэзію.

Народ наш ведае беларускіх песняроў і як выдатных грамадскіх дзеячоў. Максім Танк — першы сакратар Саюза пісьменнікаў БССР, Старшыня Вярхоўнага Савета БССР, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, член Рэспубліканскага камітэта прыхільнікаў міру, старшыня Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы.

Пятрусь Броўка — галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.

Сёння іх імёны зноў сярод імёнаў лепшых нашых сыноў і дачок, каго народ назваў кандыдатамі ў дэпутаты вярхоўнага органа ўлады краіны.

На гэтых здымках занатаваны сустрэчы кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР Максіма Танка з выбаршчыкамі ў горадзе Бярозе (верхні здымак) і Петруся Броўкі ў горадзе Рэчыцы.

**Фота Ул. Крука і М. Дзегцярова.**

### У ГЭТЫЯ ДНІ...

**...АДБЫЎСЯ**

грамадскі прагляд шырокаэкраннага мастацкага фільма «Чорнае сонца». Аўтары сцэнарыя А. Спешнеў і К. Кісялёў, рэжысёр-пастаноўшчык А. Спешнеў, галоўны аператар Ю. Марухін, кампазітар Л. Солін. У рабоце над фільмам прымалі ўдзел грамадзяне трыццаці афрыканскіх краін. Сярод іх студэнты мінскіх вышэйшых навучальных устаноў — Ампонса Сампсан (Гана), Мішэль Тагора (Малі), Караліна Акайдэ (Нігерыя) і іншыя. Прагляд фільма быў наладжаны праўленнем Саюза кінематаграфістаў БССР і кінастудыяй «Беларусьфільм».

**...ПАЧАЎСЯ**

заключны этап конкурсу народных калектываў прафсаюзаў Беларусі, прысвечаны ленінскаму юбілею. Права ўдзельнічаць у ім заваявалі пяць народных тэатраў рэспублікі. 26 мая мінчане цёпла сустрэлі спектакль трактаразаводцаў «Паэма пра сякеру» М. Пагодзіна ў пастаноўцы рэжысёра народнага тэатра А. Бяляева. Народны тэатр Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў пазнаёміў гледачоў беларускай сталіцы са спектаклем «Юнацтва бацькоў» па п'есе Б. Гарбатава (пастаноўка і мастацкае афармленне рэжысёра тэатра А. Гільварга). Народны тэатр Брэсцкага клуба чыгуначнікаў паказаў п'есу «Твой дзядзька Міша» Г. Мдзівані (пастаноўка заслужанага артыста БССР А. Самарава).

Сёння мінчане ўбачаць спектакль «Неспакойная старасць» Л. Рахманава ў выкананні народнага тэатра Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў. Заўтра — апошні дзень конкурснага прагляду. Будзе паказаны спектакль «Вечна жывыя» В. Розава ў пастаноўцы народнага тэатра Магілёўскага палаца культуры чыгуначнікаў.

Адначасова з конкурсам народных калектываў, Рэспубліканскі Дом мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў праводзіць шасцідзённы семінар рэжысёраў народных тэатраў і вядучых драматычных калектываў, у якім удзельнічае сорак чалавек.

**...АДКРЫЛАСЯ**

выстаўка маладых мастакоў. У салоне Саюза мастакоў БССР экспануецца звыш 100 работ 16 аўтараў: скульптура, графіка, плакаты, кераміка, дэкаратыўныя пано, здымкі інтэр'ераў, вокладкі кніг.

**...КАРЦІНЫ Ў ДАРУНАК**

прывезлі гродзенскія мастакі Палацу культуры шклозавода «Нёман». Сярод іх — 33 карціны В. Савіцкага, Д. Парахні, Л. Налівайкі, І. Пушкова, а таксама лінагравюры А. Захарава.

## СТО РАДКОЎ з рэдакцыі

# АБМЯРКОЎВАЮЦЬ КАЛЕГІ...

**3-га красавіка ў артыкуле «Пра тое, аб чым гаварыць ніякавата» мы пісалі ўжо аб выпадках, калі ў адносінах паміж калегамі-творцамі парушаюцца самыя элементарныя нормы сціпласці, тактоўнасці, этыкі. Мусім зноў звярнуцца да распачатай гаворкі, бо зноў мы з'яўляемся сведкамі таго, калі пісьменнікі збіраюцца, каб абмеркаваць кнігу паплечніка па працы, якую яны не чыталі; калі кампазітары абмяркоўваюць новы твор таварыша, які яны не чулі; калі мастакі безапеляцыйна адгукаюцца аб творы, які ведаюць толькі па чутках.**

**Бясспрэчна, першаступеннае значэнне ў ацэнцы таго ці іншага твора належыць крытыцы. Але, разглядаючы сучасны стан крытыкі ў галіне літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва, тэатра і кіно, нельга не заўважыць прыкрай акалічнасці: шмат якія творы наогул застаюцца па-за яе ўвагай, асобныя ж—незаслужана захвальваюцца, іншыя ж—беспадстаўна «разносяцца ўшчэнт». Часам у галіне крытыкі выступаюць людзі, якія ў ацэнцы мастацкіх твораў кіруюцца толькі ўласнымі сімпатыямі і густам.**

**Ці не ў гэтым прычына таго, што некаторыя літаратары, мастакі, якіх крытыка абвяшчала на пачатку іх творчага шляху «вяшчунамі новага слова ў мастацтве», так і не спраўдзілі яе надзеі! І ў той жа час людзі, якіх крытыка не дужа песціла сваёй увагай ці наогул незаўважала іх творчасці, цяпер вядомы як сур'ёзныя мастакі, стваральнікі высокамастацкіх, хвалюючых твораў.**

**Рабочай атмасферы секцый творчых саюзаў часам нестае прынцыповасці, паслядоўнасці і аб'ектыўнасці ў аналізе працэсаў, што адбываюцца ў цяперашні час у літаратуры і мастацтве. Гэта прыводзіць да таго, што многія літаратары, мастакі, кампазітары, асабліва творчая моладзь, не прымаюць удзелу ў іх рабоце, не спадзяюцца на іх падтрымку і дапамогу. Безумоўна, мастакоў нельга вырошчваць «інкубатарным» спосабам, але небяспечна, калі індывідуальнасць творчасці ператвараецца ў творчы індывідуалізм!**

**У савецкай літаратуры і мастацтве склалася добрая традыцыя: старэйшыя майстры заўсёды памагалі таленавітай моладзі, пачаткоўцам, клапаціліся пра іх далейшы рост. Не мецэнацкая паблажлівасць, не захвальванне, а разумная работа з маладымі заўсёды прыносіла добры плён. Цяпер жа, калі наша літаратура і мастацтва актыўна даследуе глыбінныя працэсы рэчаіснасці, калі само жыццё вылучае іх на перадавыя пазіцыі барацьбы за ўсталяванне самых справядлівых адносін паміж людзьмі, як ніколі раней узрастае роля цэнтраў работы з маладымі—секцый творчых саюзаў.**

**Падмурак будучыні нашай літаратуры і мастацтва закладваецца сёння. Але ці можа садзейнічаць выхаванню чалавека новай эпохі, чалавека-калектывіста, літаратар, мастак, які сам хварэе на самазаспакоенасць і зазнайства, ператвараецца ў саматужніка-адзіночку, які востра ўспрымае крытычныя заўвагі, што адносяцца да яго творчасці, і ў той жа час праяўляе дзіўную раўнадушнасць да творчага лёсу свайго калегі!**

**Аб рабоце секцый творчых саюзаў ствараецца такое ўражанне, што калегі па творчасці збіраюцца на іх не дзеля таго, каб выявіць пралікі ці здабыткі таго альбо іншага жанру за пэўны перыяд, дамагчыся аб'ектыўнай ацэнкі створанага, — часам такія пасяджэнні ператвараюцца ў дробязнае калупанне, у абгаворванне другарадных пытанняў, у высвятленне асабістых узаемаадносін паміж крытыкам і творцам ці паміж калегамі па працы.**

**Непрыемна, напрыклад, адчуваў сябе кожны, хто прысутнічаў на апошнім пасяджэнні секцыі прозы Саюза пісьменнікаў БССР: абмеркаванне надзённых пытанняў творчага жыцця пайшло не ў належным напрамку і не прынесла карысці ні пісьменнікам, ні тым, хто прыйшоў паслухаць гаворку, спадзеючыся, што яна будзе цікавай і плённай.**

**Абмяркоўваюць калегі... Такое абмеркаванне будзе плённым толькі тады, калі калегі будуць цвяроза і сумленна гаварыць і выслухоўваць усё, што ідзе на карысць нашай агульнай справе, калі гаворка будзе прасякнута заклапочанасцю пра сённяшні і заўтрашні дзень нашай літаратуры і мастацтва, вялікай адказнасцю перад сучаснікам, за якім заўсёды застаецца апошняе і важкае слова ў ацэнцы з'яў літаратуры і мастацтва.**

# БУДНІ ШКОЛЫ-ЮБІЛЯРА



Дырэктар школы Аляксандр Кулага займаецца з юным баяністам Жэнем Новікавым.



Піяністы Віталь Палей і Наташа Станвакова.



Скрыпач Воля Камар.

Адна са старэйшых у краіне музычных школ — Гомельская. Ёй споўнілася пяцьдзесят гадоў, і грамадскасць Беларусі ўрачыста адзначыла гэты юбілей. Цікава, што на свята з'ехаліся і сівыя музыканты, якія некалі тут упершыню дакраналіся да клавіш фартэпіяна і да струн скрыпкі, і тыя студэнты кансерваторый, што нядаўна скончылі школу і пайшлі «ў музычны свет». Кажуць, на ўрачыстым канцэрце сабралася столькі «зорак», што эстрадзе ў Гомелі ў той вечар мог бы пазайздросціць і сталічны горад. Але свята адшумела, і зноў пачаліся вучэбныя будні. Цішыня ў калідорах, а за дзвярыма... льецца мелодыя Чайкоўскага... гучаць гамы... пасажы... народная мелодыя... Здымкі, зробленыя для «ЛІМа» карэспандэнтам БелТА Ч. Мезіным, частка той мазаікі будняў, якой жыве сёння школа імя П. Чайкоўскага на беразе Сожа.



Леанід ЛЯВОНАЎ



# БУЛЬБА-

БУЛЬБА... Сказаць, што яна смачная,—значыць, нічога не сказаць. Сказаць толькі, што гэта выгадная культура,—значыць, проста пакрыўдзіць яе...

Памятаю пасляваенныя гады... Чорныя, абгарэлыя печы на месцы хат, халодныя, сырыя зямлянкі. У гэтых зямлянках туліліся людзі, якія забылі смак хлеба і сала. Можа, і мне не давялося б пісаць гэтыя радкі, калі б не бульба-выратавальніца. Яна памагла выжыць. Яна замяніла і хлеб, і ўсё-ўсё да хлеба...

Як толькі сыходзіў з палёў снег, уся вёска высыпала на леташняе бульбянішча. Дарослыя ішлі з рыдлёўкамі, дзятва—з кошыкамі. З леташняй бульбы пяклі шэразямлістыя праснакі. Частку гэтай бульбы сушылі, таўклі ў ступе, а потым пяклі з бульбянай мукі бліны.

А як чакала вёска новага ўраджаю! «Ох, дзеткі, перажыць бы нам пятроўку-галадоўку. Дзень з год, а есці няма чаго,—гаварыла маці, з надзеяй пазіраючы на агарод. — Хутчэй бы бульбачка паспела...»

Пасля «Пятра», прыкладна ў сярэдзіне ліпеня, маці пачынала «мацаць» скараспелку. Яна ўважліва аглядала куст, асцярожненька разграбала зямлю і даставала клубні, велічынёй з курынае яйка. Што за смак быў у гэтай бульбы! Дзень, калі на стале з'яўляўся чыгунок, з якога ішла саладкаватая пара, быў святам. Неўзабаве падрасталі агуркі. Бульбу к гэтаму часу ўжо капалі, елі «ад пуза». А што можа быць смачней маладой бульбы з маласольнымі агуркамі!

Перажылі гора. Цяпер на стале рабочага і калгасніка ёсць бульба і шмат чаго акрамя. Але і зараз нельга ўявіць стол беларуса без бульбы. Ды хіба толькі беларуса! Па звестках ЮНЕСКА гадавы «паёк» жыхара нашай краіны—131 кілаграм бульбы. Па спажыванні бульбы мы займаем трэцяе месца ў свеце—пасля Польшчы і Бразіліі. Заўважым, што ў ЗША норма спажывання бульбы ў тры разы менш за нашу. Доза хлеба ў нас — паўтараста кілаграмаў на душу ў год: чацвёртае месца ў свеце — пасля ААР, Югаславіі, Пакістана. Як бачым, бульбяны «паёк» жыхара нашай краіны крыху меншы за хлебны. Сапраўды, бульба—другі хлеб!

Дранікі, пюрэ, аладкі, клёцкі, бульба вараная і смажаная, са смятанай і з салам, з цыбуляй і з грыбамі, з радысам і з селядцом, з воцатам і з маслам, з маянэзам і са звычайнай соллю...

А печаная ў прысаку?!

Ды што і казаць! Каля сотні розных страў гатуюць кулінары з бульбы. Фантазія іх проста невычэрпная.

Адным словам, бульба універсальная культура. Да таго ж каштоўная сыравіна для прамысловасці: з бульбы можна атрымаць акрамя страў яшчэ больш як 200 прадуктаў і нават такія рэчы, як фотаплёнкі і пластмасы. Проста здзіўляешся: ну, як даўней людзі жылі без бульбы?

У Еўропе бульба—параўнаўча маладая культура. Якіх-небудзь чатыры стагоддзі назад пра яе і не чулі... Да гэтага часу памятаю кур'ёзнае апавяданне са школьнага падручніка пра «вяршкі» і «карэньчыкі». У еўрапейскіх краінах бульба доўга не прыжывалася. А калі гаварыць пра Расію, дык прыйдзецца ўспомніць пра бульбяныя бунты, калі даходзіла да гарматнай карцечы.

Дзіва дый годзе: бульбу саджалі пад дуламі гармат?! Цяжка знайсці што-небудзь больш парадаксальнае! Зараз у земляробстве свету бульба займае першае месца па валавым зборы, другое—па кошце ўраджаю. Пад яе адводзяцца велізарныя плошчы.

Асаблівым аўтарытэтам карыстаецца бульба ў нашай рэспубліцы. Тут яна знайшла другую радзіму. На долю Беларусі прыпадае каля пяці працэнтаў сусветнага і да пятнаццаці саюзнага збору бульбы.

Дык што ж уяўляе сабою гэты клубень, які ўрэшце перамог усё і ўсіх?

Сярэдняя бульбіна ўтрымлівае каля 75—80 працэнтаў вады, да двух дзесяткаў—крухмалу, каля двух працэнтаў—пратэіну, прыкладна, па адным працэнце попелу і клятчаткі, некаторую колькасць тлушчу і вітаміна «С». Медыкі сцвярджаюць, што бульба багата фосфарам, кальцыем, магніем, жалезам, а калію ў ёй у паўтара-два разы больш, чым у свежай гародніне і фруктах.

Гектар бульбы дае кармавых адзінак (якая празаічная назва!) у 1,2 разы больш, чым кукуруза, у паўтара раза больш, чым кармавыя буракі, а ў параўнанні з ячменем і аўсом—больш, чым удвая. Акрамя таго, на корм ідуць бульбоўнік, адыходы на спіртавых і крухмальных заводах—брага, мязга. Словам, бульба—самая прадуктыўная культура.

Цікавыя падлікі зрабіў загадчык Акцябрскага гатункова-выпрабавальнага ўчастка Гомельскай вобласці Андрэй Міхеевіч Кручкоў. За дзесяць гадоў з гектара тарфянікаў тут атрымана азімага жыта 2700 кілаграмаў кармавых адзінак, ячменю—3000, аўса—2900, сена шматгадовых траў—3000 і бульбы—7600 кілаграмаў. Лічбы гэтыя гавораць самі за сябе. Вельмі слушна заўважыў акадэмік Пранішнікаў, што «вырошчваць караняплоды і бульбу на палях—гэта тое, што атрымліваць тры каласы там, дзе раней рос адзін».

Можна было б гаварыць і пра лекавыя ўласцівасці бульбы, якія яна мае таксама. Але ці не хопіць? Думаю, што не варта сёння, як у часы Пятра I, агітаваць за бульбу. Выгаднасць гэтай культуры добра ўсім вядома.

Давайце лепш пагаворым аб іншым.

У АПОШНІЯ гады ўсё часцей можна пачуць, што бульба зараз не тая, што яна не смачная, не разварваецца, не «сопкая» і г. д. У тым, што такія размовы небеспадстаўныя, не цяжка пераканацца—варта купіць у магазіне пару кілаграмаў бульбы. Часам не толькі трэцюю частку, а то і палавіну даводзіцца выкінуць: то гнілаватая, то мякаць цёмная або зялёная. Не радуе нават і тая, якая трапляе ў каструлю,—вадзяністая, быццам мыла. Няўжо пра яе калісьці спявалі піянеры: «Тот не знает наслажденья, кто картошки не едал»?

Што здарылася з нашай бульбай? Гэтае пытанне я задаваў бывалым аграномам, старшыням калгасаў, работнікам Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі. Адказы былі розныя. Адны вінавацілі ва ўсім гатункі, другія—тарфянікі, трэція — мінеральныя ўгнаенні. Дайшоў я нарэшце да галоўнага бульбавода акадэміка Пятра Іванавіча Альсміка. І ён даў самы кароткі і самы вычарпальны адказ: «Прыціснулі бульбу два ворагі—рак і вал».

Што такое рак? Уявіце клубень з пачварнымі пухлінамі-нарасцямі. Нарасці спачатку белыя, потым робяцца цёмна-бурымі. Хвароба паражае не толькі клубні, але і бацвінне, нават лісты і кветкі, губіць палову ўраджаю. Перад другой сусветнай вайной рак лютаваў на палях усёй Еўропы. У Беларусі з'явіўся ў пасляваенныя гады і нанёс вялікія страты нашай сельскай гаспадарцы.

Давялося адмовіцца ад многіх высокакрухмалістых гатункаў, якія не маглі ўстояць супраць рака. Вучоныя ўзяліся за вывядзенне ракаўстойлівых гатункаў. Неўзабаве такія з'явіліся: раннія—«скараспелка» 1 і 2, сярэдняранція—«агранамічны» і «дзецкасельскі», сярэднія—«зазерскі», «ганусаўскі 12», познія—«фаран», «остботэ» і іншыя. Самае шырокае распаўсюджанне атрымалі «зазерскі» і «фаран». Летась яны займалі больш 300 тысяч гектараў, г. зн. каля сямідзесяці працэнтаў усіх бульбяных палёў рэспублікі.

Што гэта за гатункі? Перш за ўсё, яны не баяцца рака, непераборлівыя, на любых глебах даюць ураджай. Сваёй непатрабавальнасцю яны і захапілі сэрцы многіх непатрабавальных гаспадароў. На пачатку, калі «зазерскі» і «фаран» раслі на мінеральных глебах, добра ўгноеных, клубні былі яшчэ ніштаватыя і па крухмале, і па смаку. Але потым гэтыя гатункі пераабраліся на асушаныя тарфянікі... На ранейшых палях у пагоні за валам бульбу сталі шчодра падкормліваць мінеральнымі ўгнаеннямі. Ураджаі рэзка падскочылі ўгору, а крухмал літаральна пачаў знікаць. Чым болей даваў гектар бульбы, тым менш было ў ёй бялку і крухмалу.

Вал нястрымна расце, крухмал знікае. У 1940 годзе крухмалістасць бульбы, нарыхтаванай прадпрыемствамі харчовай прамысловасці Беларусі, складала ў сярэднім 18.9 працэнта, у 1948—17,3, у 1956—16,3, у 1966—15,1, у 1968—14,6 і летась—13,6 працэнта. Такім чынам, зараз мы трацім за год адзін працэнт крухмалу.

КРУХМАЛ... Хто аб ім дбае? Хто за яго спытае? Сцяг дадуць, ці ў прэзідыум выберуць? Не, выберуць таго, хто атрымлівае 300 цэнтнераў з гектара. Пра тое ж, што ў яго дзесяць працэнтаў крухмалу, ніхто не заікнецца.

А што крухмал для нарыхтоўшчыка? Нічагуткі, мыльная бурбалка. Ён ніякімі нормамі і інструкцыямі не прадугледжаны. За тлустасць малака калгасы атрымліваюць надбаўку, мяса аплочваецца ў залежнасці ад якасці, не бяруць нарыхтоўшчыкі без разбору гародніну і садавіну, а вось бульба прымаецца па адной цане—і харчовая, і кармавая, і тэхнічная, хаця, на думку спецыялістаў, можна без дадатковых дзяржаўных затрат дыферэнцыраваць аплату ў рамках існуючых цэн.

Праўда, і зараз спіртзаводы выплачваюць надбаўку за крухмалістасць, але... Давайце разбяромся з гэтай надбаўкай. Базісная норма крухмалу—шаснаццаць працэнтаў. Калі калгас здае бульбу з большай колькасцю крухмалу, ён сапраўды атрымлівае надбаўку—два рублі за кожны так званы тона-працэнт. А калі ніжэй? Усё роўна атрымлівае, як за шаснаццаць, хай у ёй толькі дзесяць працэнтаў крухмалу.

Вось чаму гаспадаркам выгадна вырошчваць нізкакрухмалісты непатрабавальны «зазерскі». Ураджай высокі і кіраўнікі калгасаў задаволены. Навошта цацкацца з новым гатункам «лошыцкі»? Ён багаты крухмалам, смачны, але затое патрабуе высокага аграфону. Навошта? За смак і крухмал ніхто не прыплаціць, а за клубні, выпрабаванага «зазерскага» даплаціць дзяржава. Відаць, таму дрэнны па якасці гатунак з кожным годам займае ўсё большыя плошчы. За апошнія тры гады пасевы павялічыліся на 50 тысяч гектараў. І стрымаць гэтую эпідэмію можна толькі рублём.

А пакуль жа справа даходзіць да кур'ёзаў. Неяк у Міністэрства харчовай прамысловасці рэспублікі прыехаў старшыня калгаса «Кузьмічы» Любанскага раёна Катовіч.

— Купіце ў мяне дзве тысячы тон бульбы. Выручце. браточкі, няма куды яе дзець.

— Чакайце, чакайце... У вашым жа калгасе ёсць свой крухмальны завод!—заўважыў начальнік аддзела Уладзімір Максімавіч Мароз. — Няўжо вы самі не можаце перапрацаваць?

Старшыня пераступіў з нагі на нагу.

— Шчыра кажучы, нам не выгадна з ёю важдацца. Крухмалу мы колькі атрымаем? З вераб'іны нос! А вы заплаціце па базіснай норме.

Калі яму адмовілі, старшыня яшчэ і абурыўся: «Я пайду да міністра!» І пайшоў. Але міністр быў у ад'ездзе, давялося Катовічу ісці да намесніка М. Баранава. Выслухаў той яго, пачаў сароміць: што ж гэта вы працуеце па прынцыпе—на табе божа, што нам не гожа? А старшыня слухаў і ўсміхаўся. Ён не адчуваў за сабой ніякай віны, ён нічога не парушаў, ён дзейнічаў па інструкцыі.

— А калі б у інструкцыі было напісана; плаціць за тону бульбы з шаснаццаццю працэнтамі крухмалу 60 рублёў, з дваццаццю — 70, а з дзесяццю — у два разы меней. Што б вы рабілі?

— Гэта колькі ж атрымліваецца?.. Трыццаць сем з капейкамі? Калі б завялі такі парадак, дык у нас назаўтра не было б бескрухмальнай бульбы. Калгаснікі не далі б яе садзіць... Ого, селянін—найлепшы бухгалтар...

ТАК, ВІДАЦЬ, прыйшоў час завесці такі парадак. Даўно пара змяніць падыход да харчовай бульбы.

Адзін знаёмы старшыня калгаса з Брэсцкай вобласці прызнаваўся мне:

— Пасадзілі сёлета сталовай бульбы. Зараз ламаем галаву, куды яе сплавіць. Хоць бы завялася ў ёй якая-небудзь нематода, ці што... Фугануў бы на спіртзавод навалам, без перабору. А так прыйдзецца сартаваць, перабіраць, цацкацца з ёю. Карысці ніякай, цана ж — адна...

Нічога новага я не адкрываю. Пра гэта шмат пісалі і яшчэ больш гаварылі. Яшчэ ў жніўні 1965 года ў Мінску адбылася міжведамасная нарада прадстаўнікоў Міністэрства сельскай гаспадаркі, Міністэрства гандлю і «Белкаапсаюза». Менавіта гандлёвыя работнікі і выступілі супраць змен у нарыхтоўках бульбы.

Каб прадаваць бульбу па гатунках,

яе і прымаць трэба па гатунках, асобна захоўваць, улічваць, пацвярджаць дакументамі гатунковую прыналежнасць. Гэта патрабуе дадатковых клопатаў і большай адказнасці нарыхтоўшчыкаў і прадаўцоў. Канечне, па-старому працаваць спакайней.

Але час даказаў, што змены ў нарыхтоўках бульбы неабходны. Зразумелі гэта і работнікі гандлю. Зараз Міністэрства гандлю БССР прапануе павысіць цану на 25 працэнтаў на бульбу гатункаў: «тэмп», «кандыдат», «лошыцкі», «разварысты» і «агеньчык». Матэрыяльная зацікаўленасць павінна падняць аўтарытэт сталовай бульбы, а то яна знікла нават у прыгарадных гаспадарках.

— Больш паловы плошчы займае «зазерскі, — расказваў старшы аграном Маладзечанскага раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі В. Малкоў.—А калі гаварыць дакладней, то гэта дзве з паловай тысячы гектараў. Ёсць у нас і новыя гатункі—«лошыцкі», «тэмп», «старт». Але іх малавата, як кажуць, кот наплакаў...

— А крухмалістасць?— не вытрымаў я.

— Крухмалістасць?—Васіль Міхайлавіч адказаў не адразу.—З гэтай

# БУЛЬБАЧКА

справай кепска—дванаццаць цэлых і адна дзесятая.

Вось вам і перадавы раён! Што ж яны будуць пастаўляць на стол жыхарам Мінска, Маладзечна? А ўраджайнасць у іх высокая—больш ста пяцідзесяці цэнтнераў на круг. Гэта намнога вышэй сярэдняй рэспубліканскай, затое крухмалістасць ніжэй нават сярэдняга паказчыка.

Такое ж становішча на Любаншчыне. Ураджаі высокія, крухмалістасць нізкая, і няма чаго падаць на стол. Прытым, такой бульбай нявыгадна і жывёлу карміць: малая аддача.

Цікавая гутарка была ў мяне з галоўным аграномам Вілейскага ўпраўлення сельскай гаспадаркі Георгіем Георгіевічам Сярапіным.

— Не хочуць есці і свінні... У бульбе ж адна вада. Вось і атрымліваецца, што мы ваду возім на ферму. Чакай прыбаўкі ад такога корму. Ведаеце, колькі ідзе «зазерскага» на кілаграм прыбаўкі ў вазе? Дванаццаць кілаграмаў. А «лошыцкага»—сем-восем. Амаль у два разы менш клопату з бульбай. Разумныя гаспадары гэта зразумелі...

Размаўлялі мы вечарам, ні тэлефон, ні наведвальнікі не перашкаджалі нам. Георгій Георгіевіч спісаў ужо не адзін ліст паперы, параўноўваючы розныя дадзеныя.

— Мне здаецца, што лічыць ураджай трэба не па валавым зборы клубняў, а па ўраджаі крухмалу. Гэта б адразу паставіла ўсё на сваё месца. Крухмалістасць рэзка пайшла б уверх. А павышэнне яе нават на адзін працэнт зніжае на пяць працэнтаў сабекошт кармавой адзінкі бульбы. І вядома, павышае прадукцыйнасць жывёлагадоўлі.

У маім блакноце ўжо былі лічбы, якія характарызавалі адзін працэнт крухмалу. Калі мы падымемся на гэтую ступень, дык перапрацоўваючая прамысловасць рэспублікі дасць дзяржаве больш як на два мільёны рублёў дадатковай прадукцыі. Вось вам і працэнт!

— Канечне, будзе многа нязгодных... Цяжка адразу адмовіцца ад гучных, важкіх лічбаў. На нарадах і сходах яны заўсёды бяруць верх. Трыста цэнтнераў—не сто пяцьдзесят,— задуменна гаварыў галоўны аграном.

НА АПОШНІМ з'ездзе калгаснікаў Беларусі выступаў звеннявы механізаванага звяна з калгаса «1-е Мая» Калінкавіцкага раёна С. Мятлушка. Мяне зацікавіў вопыт вырошчвання бульбы ў гэтай гаспадарцы, і я напісаў звеннявому пісьмо. Сцяпан Сяргеевіч адказаў вельмі хутка. Дазволю сабе прывесці ўрывак з яго пісьма:

«За апошнія чатыры гады ўраджайнасць бульбы ў калгасе такая: у 1966 годзе—141 цэнтнер, у 1967—212, 1968—224, 1969—281 цэнтнер. Сабекошт бульбы летась склаў прыкладна два рублі 80 капеек. Гатункі ў нас вось якія: «скараспелка-1», «зазерскі», «агеньчык», «разварысты». Ураджайнасць такая: «скараспелка-1» — 170—180 цэнтнераў, «зазерскі» — 260, «агеньчык» — 340—350, «разварысты», самы багаты крухмалам,— 220—230 цэнтнераў.

Палова пасеваў у нас на тарфяніках, другая палова—на мінеральных глебах. Бульба з тарфянікаў мае нізкую крухмалістасць—12—13 працэнтаў, з мінеральных—17—18 працэнтаў. Як я ўжо гаварыў, самы багаты крухмалам «разварысты» — 21—23 працэнты. Але па вале ён адстае. Летась быў у нас адзін гектар «тэмпу». Сёлета мы яму адвядзём пяць гектараў. Думаем завесці замест «скараспелкі» гатунак «беларускі ранні». Будзем выпрабоўваць «лявоніху» і «бярозку».

Як у нас арганізавана насенневодства? Бульбу на насенне саджаем асобна, загушчаным спосабам—55—60 тысяч кустоў на гектары. Тут больш даем мінеральных угнаенняў, лепш апрацоўваем глебу. У час цвіцення робім гатунковую прапалку, выкідваем нетыповыя для дадзенага гатунку расліны. Захоўваем насенную бульбу асобна. Насенныя ўчасткі размяшчаем толькі на тарфяніках, каб бульба не выраджалася.

Як здаём клубні? Здаём на гародніна-сушыльны камбінат, у асноўным гатунак «зазерскі».

Далей Сцяпан Сяргеевіч пісаў аб перспектывах, шкадаваў, што не хапае мінеральных угнаенняў, малавата насення новых гатункаў. Аднак, мяркуючы па пісьме, выжываць «зазерскі» яны пакуль не збіраюцца, бо менавіта яго здаюць на перапрацоўку.

У красавіку ў газетах прамільгнула паведамленне, што механізаваныя звенні саўгасаў «Любанскі», «10-годдзе БССР», калгасаў «Чырвоная змена» і «Беларусь» Любанскага раёна змагаюцца сёлета за 500 цэнтнераў бульбы з гектара. Вось гэта ўраджай!

Па старой памяці я пазваніў у саўгас «10-годдзе БССР»—калісь даводзілася быць у гэтай гаспадарцы. Да тэлефона падышоў галоўны інжынер Станіслаў Вікенцьевіч Чыжэўскі:

— Так, мяркуем атрымаць такі ўраджай,—адказаў ён.—Якія гатункі? Пра іх лепш прамаўчаць. «Зазерскі» і «мітэльфруе». Новых зусім мала. Крухмалістасць? Мо працэнтаў дванаццаць нашкрабём. Шчыра кажучы, з гэтай бульбы толку мала. Але ж затое пяцьсот цэнтнераў! Не можам жа мы адставаць ад суседзяў!..

Каментарыі тут не патрэбны.

МОГУЦЬ СКАЗАЦЬ, што аднаго жадання вырошчваць высокакрухмалістыя гатункі мала. Трэба мець гэтыя гатункі. Ці ёсць яны ў нас? Так, ёсць. За апошнія пяць гадоў беларускія селекцыянеры вывелі і раяніравалі шэсць гатункаў бульбы. Сем гатункаў праходзяць дзяржаўныя выпрабаванні, два перададзены «экзаменатарам» летась. Гэта вялікае дасягненне нашых вучоных, плён карпатлівай і настойлівай працы.

А ведаеце колькі часу патрэбна для стварэння новага гатунку? Адзінаццаць гадоў. І толькі пры шчаслівых акалічнасцях магчыма скарачэнне гэтага тэрміну на два—тры гады. Але так здараецца рэдка. Часцяком часу патрабуецца больш.

У наш час любая сур'ёзная справа патрабуе цэлага жыцця: усё, што ляжала на паверхні, даўно адкрыта, вывучана. А калі гаварыць пра селекцыянера, дык яму часта не хапае жыцця, каб завяршыць задуманае. Назаўтра ён нічога не можа адкласці, бо для селекцыянера заўтра—наступны год. Прырода вінавата. Яна не дазваляе ў сціслыя тэрміны выпраўляць мінулыя памылкі. Селекцыянер павінен быць празорлівым, уяўляць сабе новы гібрыд, як скульптар бачыць у бясформенным камені будучую скульптуру.

Памятаю, як шкадаваў акадэмік Альсмік:

— Ну і падвяла ж мяне «бярозка»! Колькі з ёй цацкаліся! Усё было выдатна. Ураджайны, багаты крухмалам гатунак. А сёлета патрэскаліся клубні. Можа, лета было надта дажджлівае, можа, іншая прычына. Але калі яна здольна на такія штукі, дык шырокай дарогі ёй не дадзім. Трэба выпускаць бездакорныя гатункі...

Мы гутарылі ў кабінеце акадэміка. У яго адкрыты, прыемны твар, шэрыя вочы. Стомлены, задуменны позірк іх гаварыў, што чалавек гэты нямала папрацаваў, пераўжыў на сваім вяку. Але, бадай, больш за ўсё прыцягвалі рукі—сухарлявыя, шырокай косці, рукі вучонага-працаўніка, акадэміка-селяніна. Пётр Іванавіч—сын патомнага земляроба з Віцебшчыны. У яго і зараз ёсць нешта адвечна-сялянскае: на нагах паношаныя боты, штаны, запраўленыя ў халявы, на спінцы крэсла вісіць сціплы цёмны пінжак. Спачатку нават не верыцца, што перад табой доктар сельскагаспадарчых навук, член-карэспандэнт Усесаюзнай Акадэміі, правадзейны член рэспубліканскай Акадэміі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы, буйны вучоны-селекцыянер, імя якога вядома не толькі ў нас у краіне, але і сярод замежных бульбаводаў. Гутарыць з Альсмікам—адно задавальненне. Гаворка яго па-сялянску скупаватая, ясная і простая, без вадаспаду навуковых тэрмінаў.

У РАЗГАР нашай гутаркі ў дзверы пастукалі. Зайшоў невысокі, смуглявы чалавек.

— Я аграном з саўгаса «Свабода» Салігорскага раёна. Прыехаў да вас, Пётр Іванавіч. Дайце трохі на развод насення...

Альсмік запрасіў агранома сесці, распытаў у яго ўсё: і колькі садзяць бульбы, і як угнойваюць, і які ўраджай, і як здаюць бульбу.

— Дзіўна, што ў Мінск возіце больш, чым у Салігорск. Ён жа ў вас пад бокам. Ах, вы—трэстаўскі саўгас. Зразумела. Ну што ж, дадзім вам насення. Карміце шахцёраў смачнай бульбай. Пайду параюся з калегамі, што мы можам вам прапанаваць...

Неўзабаве Альсмік вярнуўся. Вельмі ўзрадаваўся аграном, калі пачуў, што атрымае каля тоны «паўлінкі», кілаграмаў па дзвесце «тэмпу», «кандыдата» і «беларускага ранняга».

Наша гутарка працягвалася. Вучоны расказваў аб гатунках, аб іх вартасцях і недахопах. Так, ён не хаваў заган сваіх «выхаванцаў». Першым Альсмік назваў «лошыцкі». Выдатны гатунак, багаты крухмалам. Яго недахоп, калі гэта можна назваць недахопам,—высокая патрабавальнасць: яму давай выдатны аграфон, г. зн. урадлівую глебу. Не любіць пясчаных глеб.

Я расказаў Пятру Іванавічу аб размове з адным з магілёўскіх аграномаў, які сцвярджаў, што «лошыцкі» вытрымлівае вялікую канцэнтрацыю ўгнаенняў: не выгарае нават на месцах, дзе ляжалі бурты гною. Шмат добрых водгукаў мне даводзілася чуць пра гэты гатунак ад старшынь калгасаў і аграномаў. Аб прызнанні «лошыцкага» гаворыць і той факт, што ён самы распаўсюджаны з новых гатункаў,—яго пасевы летась займалі каля 30 тысяч гектараў.

«Тэмп» — высокакрухмалісты, смачны і ўраджайны гатунак. Яго загана—усе клубні буйныя, не па зубах бульбасаджалцы. Баіцца ён вірусаў. Рэзаць, напрыклад, у час пасадкі клубні нельга, бо могуць захварэць і аказацца «пад чорнай ножкай»—ёсць такое бактэрыяльнае захворванне. «Чорная ножка» асабліва шкодзіць насенным участкам.

Потым Пётр Іванавіч назваў гатунак «кандыдат» і «разварысты». Абодва выдатна сябе зарэкамендавалі на палях калгасаў і саўгасаў, ураджайныя, смачныя, не баяцца вірусаў. «Разварысты» проста незамянімы на тарфяніках. Пятым у гэтым радзе Альсмік паставіў «агеньчык». Сярэднеспелы гатунак. Па задуме вучонага, менавіта ён павінен замяніць «зазерскі». «Агеньчык»—высокаўраджайны гатунак, хоць па крухмале, смаку саступае «тэмпу» і «лошыцкаму». Затое ён паспявае раней за іх. Гэта вельмі важна. Усе багатыя крухмалам гатункі, як правіла, познія, і ў час уборкі ствараецца непатрэбная гарачка.

— Мне вельмі падабаецца «беларускі крухмалісты». Мне здаецца, ён самы смачны. Ёсць на яго скаргі, маўляў, драбнаваты, ураджаю вялікага не атрымаеш. Думаю, гэта залежыць ад гаспадара... Быў я ўвосень у калгасе «Усход» на Уздзеншчыне, дык не пазнаў свайго гатунку. Ох, і ўрадзіў жа! Пытаюся ў агранома, што гэта за навіна? А ён смяецца: «Няўжо не пазнаяце?» Сабралі яны па трыста цэнтнераў з гектара.

У дзверы зноў пастукалі. Зайшоў новы наведвальнік.

— А вось і Мікалай Канстанцінавіч!—узрадаваўся Альсмік. — Вельмі дарэчы. Знаёмцеся—гэта аграном з «Усхода»... Я толькі што расказваў, як не пазнаў у вас свайго гатунку...

— Было такое,—усміхнуўся аграном, задаволены гэтай заўвагай акадэміка.

Загар у агранома, відаць, не сходзіць круглы год. Ды яно і зразумела. Мікалай Канстанцінавіч Козіч— не кабінетны работнік, не прывязаны да стала. Яго рабочае месца—поле. Яму ён аддае ўсё: час, сілы, веды. Каб не Козіч, то за тры—чатыры гады калгас «Усход» не выйшаў бы ў перадавікі па ўраджайнасці бульбы. Летась тут атрымалі па трыста чатыры цэнтнеры на круг. Прычым не толькі «зазерскага» і «фарана», а і новых гатункаў. І гэта вельмі радуе Альсміка.

— Пётр Іванавіч, ледзь не забыў... Атрымалі заказ з ГДР. Просяць адгрузіць сто тон «лошыцкай» на насенне.

— Прыемная навіна. І немцы ацанілі нашу бульбу. Значыць, яна і сапраўды добрая.

Аграном заспяшаўся: шмат спраў чакала яго ў горадзе.

Пётр Іванавіч працягваў размову пра сучасныя пошукі, пра планы на будучае. Запаветная мара акадэміка і яго памочнікаў—стварыць ураджайныя гатункі, багатыя крухмалам і пратэінам. Ужо з'явіліся першыя ластаўкі: «бекра-1» (бялкова-крухмалістая) і «акорд». Крухмалу ў іх да 24, а пратэіну да 3-х працэнтаў. Ёсць узоры (яны пакуль без назваў, пад нумарамі), якія здольны даваць 26 і нават 32 працэнты крухмалу. Затое ўраджай клубняў — усяго 60—70 цэнтнераў.

— Дзве цяжкасці перашкаджаюць нам. Першая біялагічная: чым багацей гатунак пратэінам, тым меншы ўраджай. І другая: практычная, ці як яе назваць?—вал. Калі ўкараніць гэтыя гатункі—рэзка знізіцца вал. За гэта нас не пахваляць. Ды і не ўсякі старшыня прамяняе 300 цэнтнераў на 150. Аднак паступова, па этапах будзем прывучаць кіраўнікоў гаспадарак змагацца за якасны вал.

БОЛЬШ ЯК паўдня праседзеў я ў Альсміка. Не раз перапынялі нашу гаворку. Заходзілі калегі Пятра Іванавіча, яго вучні. А вучняў у яго шмат. Некаторыя з іх маюць свае гатункі, абаранілі дысертацыі. Гэта, перш за ўсё, кандыдаты сельскагаспадарчых навук Серафіма Мікалаеўна Купчына, Ларыса Арсеньеўна Панцюхіна, Ніна Рыгораўна Тамчук, Мікалай Дзям'янавіч Ганчароў... Зараз з поўным правам можна гаварыць аб школе Альсміка.

Гатункі могуць выраджацца. Змяняюцца ўмовы, растуць патрабаванні. Магчыма, праз дзесяць—дваццаць гадоў зжывуць сябе гатункі, якія зараз укараняюцца, пра якія мы марым. Але каб справа не стаяла на месцы, патрэбны кадры селекцыянераў, здольныя выводзіць усё новыя і новыя гатункі,—прыкладна так выказаў сваю думку акадэмік.

Падзякаваўшы, я ўжо сабраўся ісці, калі ён раптам спытаў:

— Вы на машыне прыехалі ці аўтобусам?

— Аўтобусам,—адказаў я, нічога не падазраючы.

— Гэта больш складана, але нічога. Пойдзем у сховішча.

У сховішчы ў высокіх клетках-засеках ляжала бульба. Мне тут жа напакавалі два пакеты.

— Гэта вам на пробу. Тут «тэмп» і «беларускі крухмалісты». А цяпер бывайце здаровенькі,— Пётр Іванавіч пацiснуў мне руку і па-гаспадарску, нетаропка, пайшоў уздоўж засекаў.

Павінен сказаць, што гасцінец акадэміка аказаўся дужа смачным. Нават мая трохгадовая дачка ўплятала бульбу за абедзве шчакі, хоць звычайна ў ядзе ёй трэба прыганяць. Мы так і не змаглі вызначыць на сямейнай радзе, які гатунак лепшы. Абодва добрыя! Згадзіліся з меркаваннем аўтарытэтнай вучонай камісіі, якая «тэмпу» і «беларускаму крухмалістаму» прысудзіла пяць балаў.

Дарэчы, пра камісію. Засядала яна летась у сакавіку. Вясновы месяц быў выбраны не выпадкова: ацэньвалася здольнасць бульбы захоўваць свае смакавыя якасці, знешні выгляд, форму і памер. Восем чалавек—вучоныя Беларускага інстытута народнай гаспадаркі, галоўны таваразнаўца і інжынеры-тэхнолагі Міністэрства гандлю смакавалі бульбу. І вось якія вынікі гэтай дэгустацыі: па пяць балаў атрымалі не толькі «тэмп» і «беларускі крухмалісты», але і «лошыцкі», «паўлінка», «разварысты». Высокую ацэнку заслужылі гатункі «агранамічны», «кандыдат» і «бярозка». «Беларускі ранні» атрымаў тры з паловай балы, «агеньчык» і «скараспелка-1»— здавальняючыя адзнакі. З трэскам праваліліся на экзамене «зазерскі» і «скараспелка-2». Члены камісіі аднадушна паставілі ім двойкі. А менавіта гэтую бульбу мы купляем у магазіне, менавіта гэтыя гатункі займаюць ільвіную долю пасеваў «другога хлеба».

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# БУЛЬБА-БУЛЬБАЧКА

(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).

ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ з Альсмікам захацелася заглянуць у свае блакноты, знайсці запіс гутаркі з дзяржаўным інспектарам Марыяй Гаўрылаўнай Каратковай.

Ёсць у Курасоўшчыне, прыгарадзе Мінска, утульны двухпавярховы домік. У ім размяшчаецца Дзяржаўная гатункавыпрабавальная інспекцыя Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР. Яна экзаменуе ўсе новыя гатункі жыта, бульбы, кукурузы і іншых культур.

— Селекцыянер можа ўсяляк расхвальваць свой гатунак, а мы праверым і скажам: «Не, даражэнькі, ён не варты такіх кампліментаў, раянiраваць яго нельга». У Беларусі ёсць больш як два дзесяткі гатунка-выпрабавальных участкаў. Знаходзяцца яны ў розных умовах,—не спяшаючыся расказвала Марыя Гаўрылаўна, невысокая сівая жанчына, з разумнымі вачыма.—Гэта дазваляе нам не толькі ўсебакова праверыць «выхаванцаў» селекцыянераў, але і падабраць лепшы букет для любога раёна, гэта значыць, рэкамендаваць гатункі, якія найбольш падыходзяць да гэтай зоны.

Марыя Гаўрылаўна пра многія гатункі выказала сваю, не інспектарскую, як яна сказала думку, а думку пакупніка. Самым смачным яна лічыць «беларускую крухмалістую». Падабаецца ёй «кандыдат», у пэўных умовах ніштаваты і «агеньчык».

— Гатункаў у нас шмат. Ёсць проста выдатныя. Кепска тое, што мы неразумна выкарыстоўваем іх... Селекцыянер выводзіць гатунак па прызначэнні—кармавы, тэхнічны, харчовы. Раянiруем мы таксама па прызначэнні. А ў калгасах усё ставяць дагары нагамі. Кармавы ідзе ў сталоўку і на спіртзаводы, тэхнічны—на ферму...

Пасля сустрэчы з Каратковай я набываў на некаторых гатунка-выпрабавальных участках. Раскажу пра адзін з іх. Знаходзіцца ён недалёка ад Вілейкі, у маленькай вёсачцы Порса. Сядзелі мы з яго загадчыкам Трафімам Аляксандравічам Паляцеевым ва ўтульнай альтанцы і гарталі тоўстыя канторскія «гросбухі».

— Я ўжо даўнавата тут працую. Прайшло праз мае рукі мноства ўсялякіх гатункаў. Ды і зараз у нас іх нямала—дваццаць восем. Канечне, большасць не атрымае права на жыццё. З новых мне падабаюцца «лявоніха» і «паўлінка»... Ёсць у нас і заможны—«антарэс», з ГДР. Але не хоча ён прыжывацца. Ніяк не можа забыць, што знаходзіцца ў гасцях...

Добрым словам успомніў Трафім Аляксандравіч старадаўні нямецкі гатунак «вольтман». У нас на Магілёўшчыне яго называюць «лазоўкай», там-сям клічуць «рабінаўкай». Клубні гэтага гатунку смачныя, багатыя крухмалам, але паддаюцца раку. «Вольтман» застаўся толькі на прысядзібных участках, дзе трымаецца моцна і не думае выраджацца.

ТАКІМ ЧЫНАМ, мы пераканаліся, што добрыя ўраджайныя гатункі бульбы ў нас ёсць, будзем спадзявацца, што ўрэшце яны з'явяцца ў продажу.

У магазіне ўжо зараз можна купіць не толькі клубні, а і крэкеры, чыпсы, пюрэ ў гранулах і г. д. Што гэта такое? Каб адказаць на пытанне, трэба пабываць ва Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце прадуктаў харчавання з бульбы. Знаходзіцца ён у Мінску, недалёка ад Чэрвеньскага рынку, у прыгожым чатырохпавярховым будынку.

— Бульбу называюць другім хлебам. І гэта сапраўды так. Але бульбу немагчыма доўга захоўваць, як збожжа. Клубні трацяць свае спажыўныя і смакавыя якасці, прарастаюць, гніюць... Вось мы і шукаем сродкі і метады, каб прымусіць другі хлеб не чарсцвець, — расказваў мне намеснік дырэктара інстытута Віктар Мікалаевіч Залецкі. — Мы распрацавалі больш дзесятка відаў крэкераў, восем—чыпсаў... Што я вам буду расхвальваць, лепш давайце пакаштуем...

Ідзем у лабараторыю. Дзяўчаты ў белых халатах сыплюць у каструлю, дзе кіпіць масла, шматкі шэраватай паперы. Літаральна на вачах «шматкі» расцвіталі, ператвараліся ў дзіўныя кветкі. Іх адразу ж вылоўлівалі друшлякамі—і на талерку. Праз дзве-тры хвіліны на стале дыхала араматам талерка крэкераў. Яны не хрумсцелі, яны проста таялі ў роце, пакідаючы пасля сябе тонкі смак грыбоў, балгарскага перцу, карыцы, цыбулі і часнаку.

Крэкеры не толькі смачныя, але і вельмі каларыйныя—сто грамаў іх замяняюць дзвесце грамаў мяса. На жаль, крэкеры пакуль не ацэнены ў нас. Рэдка бяруць іх хатнія гаспадыні. А раз няма попыту, не расце і прапанова. Быхаўскі камбінат выпускае штогод пяцьсот тон крэкераў, амаль усе яны ідуць за мяжу—у Польшчу, Англію.

Аднак працягнем размову пра навіны інстытута. Пачаставалі мяне там маладой бульбай, хаця на двары быў пачатак вясны. Выкапалі яе амаль год назад, заправілі салам, зялёнай цыбуляй, кропам... і замарозілі. І вось праз дзесяць месяцаў падалі на стол. Смак незвычайны—язык можна праглынуць, без усякіх жартаў. Больш дзесяці замарожаных страў з маладой бульбы прапанавала інжынер-тэхнолаг Елізавета Цімохаўна Гусыніна з групай навуковых супрацоўнікаў.

Бадай, самы перспектыўны прадукт — пюрэ ў гранулах. Знешне гранулы нагадваюць дробную вермішэль. Сушаць іх усяго адну гадзіну, таму вітаміны захоўваюцца. А каб з гранул прыгатаваць пюрэ, трэба дзесяць хвілін. Уяўляю, як узрадуюцца турысты! Развёў цёплай вадой—і ёсць сапраўднае пюрэ.

Навіны, канечне, рэч добрая. Але яны ніколі не заменяць свежую сопкую бульбу, якая надзвычай смачная з селядцом, агурочкам ці з сыраквашай...

Колькі смачных страў можна прыгатаваць з бульбы! І таму бывае крыўдна, калі зойдзеш у сталоўку, а ў меню бульбы няма і ў паміне. Ды хіба толькі ў сталовых! І ў мінскіх рэстаранах—бульба дэфіцыт.

Чаму бульба не ў пашане ў кухараў? Адказ просты: нявыгадна. Нявыгадна рабіць стравы з бульбы, як і наогул з гародніны, яны вельмі танныя. На іх плап не выканаеш

А бульбу — любяць усе. У гэтым лёгка пераканацца, калі пабываць у мінскай «Бульбянай», што на Ленінскім праспекце. Наведвальнікаў там заўсёды поўна. Найбольшы попыт—на бульбу ў гаршчочках,—будзеш сыты і задаволены.

Падобныя «Бульбяныя» ёсць і ў іншых гарадах. Гады два назад справіла дзень нараджэння «Бульбяная» ў Жыткавічах, у глыбінным палескім райцэнтры. Ды яшчэ якая! Жыхары гарадка вельмі ганарацца ёю.

Зараз у вёсках ёсць сталоўкі, дзе ўмеюць рабіць з бульбы больш смачныя стравы, чым у сталічных рэстаранах. Неяк летась мы доўга ездзілі па дарогах Вілейшчыны, і хоць добра вымярхаліся, абед адкладвалі. «Вось даедзем да саўгаса «Беларусь», там і падсілкуемся,—гаварылі мае спадарожнікі, таварышы з раёна. Яны расказалі, што кухар саўгаснай сталовай Лідзія Арцёмаўна Паўлоўская ўзнагароджана ордэнам «Знак Пашаны» за сваю працу. А варыць яна боршч, бульбу і кашу ўжо дваццаць гадоў.

— Паспрабуй без бульбы,—ого, які вэрхал паднімуць рабочыя. Праўда, новых гатункаў яшчэ мала, — расказвала Лідзія Арцёмаўна. — Прыязджайце гады праз два... Арганізуем дэгустацыю. Дарэчы, я дзесьці чытала, што ў ГДР праводзяцца раённыя дэгустацыі бульбы. На іх вызначаюць пераможцу—самы смачны гатунак. Чаму б не зрабіць гэта ў нас?

Сапраўды, чаму? Арганізаваць такі конкурс можна ў любым раёне.

ШТО МОЖНА сказаць у заключэнне?

Крыўда хатніх гаспадынь на бульбу даволі справядлівая. Праўда, што не заўсёды смачны другі хлеб. Але ёсць, ёсць новыя гатункі—ураджайныя, багатыя крухмалам. Вось толькі на іх шляху да стала процьма перашкод: пагоня за валам, (а колькасць у гэтым выпадку не пераходзіць у якасць), непераборлівасць нарыхтоўшчыкаў, адсутнасць комплексу механізмаў для ўборкі, добра абсталяваных сховішчаў, мноства іншых вялікіх і малых праблем. Вырашаць іх трэба сёння.

«...Мець самыя высокія паказчыкі ў вытворчасці бульбы—справа нашага прэстыжу. Для гэтага ў наяўнасці ўсе ўмовы... Дзе-дзе, а ўжо ў бульбаводстве нам даўно час навесці належны парадак»,—так гаварыў першы сакратар ЦК КПБ Пётр Міронавіч Машэраў на Трэцім з'ездзе калгаснікаў у Мінску.

Так, наша рэспубліка—бульбяная жытніца. Слава беларускай бульбы вядома далёка. Будзем жа берагчы і памнажаць гэтую славу!

## У «ДОМЕ ГРАМПЛАСЦІНАК»



Беларускія народныя песні «Бульба», «Чабарок», «Бярозка», «Ой, зелена, зелена», «Як правёў мяне Цімох», «Ляціць сарока», а таксама творы Сакалоўскага, Туранкова, Аладава, Багатырова, Лучанка на словы Коласа, Броўкі, Глебкі, Русака, Дзяржынскага... Грампласцінкі з такімі назвамі ёсць у продажы ў спецыялізаваным магазіне Мінска «Дом грампласцінак». Гэтыя творы запісаны ў выкананні Дзяржаўнага народнага хору БССР, Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы БССР, Дзяржаўнага народнага аркестра БССР.

На здымку — прадавец Марына Акуловіч і музыказнаўца магазіна Надзея Радзівілка сярод пакупнікоў.

## ЭКЗАМЕН ТРЫМАЮЦЬ НАСТАЎНІКІ

Хоць за апошнія гады ў нашых школах пачалі больш аддаваць увагі эстэтычнаму выхаванню дзяцей, але і да гэтага часу чамусьці лічыцца, што маляванне — гэта галіна, даступная толькі незвычайным, асабліва таленавітым дзецям. А між тым — асновам малявання можна і трэба навучыць кожнага.

Відаць, гаворку аб праблемах эстэтычнага выхавання дзяцей трэба пачынаць з гаворкі пра чалавека, які найбольш блізка стаіць да непасрэднай творчасці дзяцей, — пра школьнага настаўніка малявання.

Хто ён? Ці здольны запаліць дзіцячую душу высокай любоўю да мастацтва? Ці можа навучыць іх элементарнай мастацкай грамаце?

Выстаўка работ настаўнікаў малявання сталіцы, якая адкрылася ў Рэспубліканскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў, хаця і не дае адказу на гэтыя пытанні, але дапамагае нам скласці ўражанне аб асабістым творчым узроўні тых, хто займаецца мастацкім выхаваннем школьнікаў.

Сярод удзельнікаў выстаўкі амаль усе маюць сярэднюю альбо вышэйшую мастацка-педагагічную адукацыю. Таму было б несправядліва адносіцца да іх работ са скідкай, паблажліва.

Выстаўка невялікая, але кожны яе ўдзельнік прадстаўлены дастаткова шырока, каб можна было меркаваць аб яго творчых магчымасцях, здабытках і выдатках. І трэба сказаць, што выдаткаў, на мой погляд, больш, чым здабыткаў. Амаль усе работы носяць налёт эскізнасці, незавершанасці, дрэнна прадуманы кампазіцыйна, вельмі няўпэўнена напісаны. Настаўнікі, якія ўдзельнічаюць у гэтай выстаўцы, нібы спыніліся на нейкім аднойчы дасягнутым узроўні і з таго часу топчуцца на адным месцы. Не кажу пра тое, што большасць твораў не вызначаюцца багаццем і глыбінёй зместу.

У чым тут прычыны? Відаць, у тым, што ў настаўнікаў малявання няма ніякага стымулу для мастацкага росту, як няма і магчымасцей для сур'ёзнай творчай работы. Яны не маюць ні матэрыялаў, ні часу для творчай работы. Не могуць яны сачыць і за поспехамі сяброў. Відаць, трэба часцей наладжваць выстаўкі - справаздачы настаўнікаў малявання, ставіцца да гэтых выставак больш патрабавальна. Трэба, каб гэтыя выстаўкі былі больш прадстаўнічыя. Трэба, відаць, падумаць і аб тым, каб нейкім чынам заахвочваць настаўнікаў да ўдзелу ў такіх выстаўках.

Мастацкі ўзровень тых, хто вучыць дзяцей маляваць, справа сур'ёзная.

А. КРУГЛЫ.

## ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА




У 1912 годзе ў Францыі рускія палітэмігранты выпусцілі марку з партрэтам заснавальніка навуковага камунізма К. Маркса. Сродкі ад яе рэалізацыі (яна прадавалася па 10 франкаў) перасылаліся Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі для правядзення кампаніі па выбарах у IV дзяржаўную думу.

Неўзабаве марка трапіла ў жандарскае ўпраўленне і міністэрства ўнутраных спраў Расіі. Вось што даносіў з Парыжа чыноўнік для асобых даручэнняў пры міністэрстве ўнутраных спраў Расіі: «Маю гонар перадаць пры гэтым вашаму правасхадзіцельству экземпляр асобай маркі, якая распаўсюджваецца РСДРП для збору грошай на выбарчую кампанію». Устрывожаны дэпартамент паліцыі выдаў сакрэтны цыркуляр. Нягледзячы на забарону паліцыі марка шырока распаўсюдзілася ў Расіі.

У 1964 годзе нашу краіну наведала Соф'я Ганчарская, жыхарка ЗША, былая палітэмігрантка ў Францыі. Яна перадала хабараўскаму краязнаўцу, пісьменніку Н. Мацвееву-Бодраму тры экземпляры унікальнай маркі з партрэтам К. Маркса. Дзве былі перададзены на захаванне ў музей К. Маркса і Ф. Энгельса ў Маскве. Калекцыянеры лічылі, што ў музеях нашай краіны і ў прыватных калекцыях ёсць усяго шэсць экземпляраў гэтага знака.

Але вось мінскі філатэліст В. Селязнёў разбіраючы старыя кнігі на гарышчы аднаго дома, нечакана знайшоў у адным з дарэвалюцыйных выданняў амаль цэлы ліст унікальных марак з партрэтам К. Маркса.

Як трапілі маркі ў Мінск, хто іх захоўваў у чорныя дні фашысцкай акупацыі?—на ўсе гэтыя пытанні пакуль што адказаць цяжка.

Унікальная марка надрукавана светла-фіялетавай фарбай на светла-крэмавай паперы, памерам 4×5 см. У цэнтры — цудоўны авальны партрэт К. Маркса, упрыгожаны віньеткамі, у куточках лічба—10. Зверху маркі надпіс-заклік на рускай мове: «РСДРП — на выбарчую кампанію», унізе — Сацыял-дэмакратычная рабочая партыя Расіі», справа — «на выбарчую кампанію ў IV дзяржаўную думу» на нямецкай і французскай мовах.

Нядаўна стала вядома, што існуе яшчэ адна марка, вельмі падобная на тыя, што былі знойдзены ў Мінску. Але ў гэтай, пакуль што адзінай марцы, другі намінал — адно пені і надпісы толькі на англійскай мове. Выдадзены яны былі заграчічным бюро сацыял - дэмакратычнай партыі Латвіі ў 1914 годзе.

На жаль, і пра першы, і пра другі выпуск гэтых марак вядома вельмі мала. Хто мастак мініяцюры, хто аўтар партрэта К. Маркса, калі яна дакладна была выпушчана ў свет, колькі было марак у серыі?

Нам здаецца, што сярод старых рэвалюцыянераў, старых байцоў партыі знойдуцца людзі, якія асабіста прымалі ўдзел у распаўсюджванні гэтай маркі ў Расіі ці што-небудзь ведаюць пра яе выпуск. Няхай адгукнуцца. Беларускія калекцыянеры паслалі запытанне пра гэтыя маркі ў філатэлістычныя часопісы ГДР і Францыі.

Л. КОЛАСАЎ,
адказны сакратар праўлення Беларускага аддзялення Усесаюзнага таварыства філатэлістаў.

# НОВАЯ СУСТРЭЧА З ГАНЬКАЙ

У АПОШНІЯ гады ўвагу чытачоў прыцягнулі дзве аповесці А. Васілевіч — «Расці, Ганька» і «Доля знойдзе цябе», якія маюць аўтабіяграфічны характар. Гераіню апавядання «Пісар страявой часці», якое дало назву апошняму зборніку апавяданняў А. Васілевіч, таксама завуць Ганькай. Але, думаецца, не толькі імя дае падставы меркаваць, што гэтае невялікае апавяданне з'яўляецца працягам цыклу пра Ганьку, галоўную гераіню апошніх твораў пісьменніцы.

Сюжэт апавядання нескладаны, а калі ўявіць сабе знешні малюнак падзей, дык ён і зусім ардынарны.

Вайна. У далёкай Татарыі жывуць эвакуіраваныя з Беларусі дзяўчаты. Адна з іх — Ганька, няўпэўненая ў сваіх сілах, па-дзіцячы наіўная і чыстая, сарамлівая. Ёй здаецца, што яна нікому не патрэбна са сваёй адукацыяй і ведамі зараз, у цяжкі ваенны час. Бойкая зямлячка Ганькі, Наташа, дапамагае ёй уладкавацца на пасаду пісара страявой часці. Ганька ўся аддаецца гэтай працы, знаёміцца з новымі людзьмі, сустракае шчырых сяброў.

Вось і ўсё. Здаецца, нічога ж новага — аб усім гэтым шмат пісалі. Але ўсё, відаць, у тым, **як** пісьменніца ўбачыла гэта і **як** паказала ў сваім творы.

Нерв апавядання А. Васілевіч — сам вобраз Ганькі, яе лёс, яе ўнутраны свет, чысціня і хараство яе душы. На гэтым і робіцца эмацыянальны акцэнт твора.

Усе падзеі падаюцца праз непасрэднае ўспрыманне гераіні, і гэта надае ўсяму апавяданню тое празрыстае, крыху рамантычнае адценне, якое прыўносіцца ў твор Ганьчыным светаўспрыманнем.

Сэнс апавядання не ў тым, што прыгажуня кепская і злая, і не ў тым, што непрыкметная з выгляду Золушка добрая і па-чалавечы прыгожая. Сэнс гэты не ўкладваецца ў няхітрую формулу і не вычэрпваецца адным толькі павучаннем. Проста нам вельмі хораша на душы ад сустрэчы з мілым і шчырым чалавекам. Менавіта такой радаснай падзеяй была мая сустрэча з Ганькай, гераіняй апавядання «Пісар страявой часці».

Падобная да Ганькі маладзенькая медсястра з апавядання «Трэцяя палата». Яна ўся свеціцца дабратой, шчырым клопатам і любоўю да параненых — пацыентаў трэцяй палаты. І гэту палату чытач аглядае менавіта яе ўважлівым і добразычлівым позіркам. Мы ведаем з яе слоў пра лёс кожнага параненага, тактоўна і цярпліва выслухоўваем іх скаргі і капрызы (іншы раз і недарэчныя, але якія можна дараваць хвораму чалавеку), шчыра намагаемся дапамагчы ім.

Побач з галоўнай гераіняй (нашай «сястрычкай»), у апавяданні ёсць вобраз незнаёмай жанчыны — Веры Мікалаеўны, жанчыны, якую бясконца і безнадзейна чакае адзін з параненых, Каіпаў. Вобраз Веры Мікалаеўны зліваецца ў свядомасці дзяўчыны з вобразам настаўніцы, гераіні яе студэнцкай маладосці, жанчыны, да якой ёй так хацелася быць падобнай. Гэтая незнаёмая настаўніца нечым прыцягвала да сябе, яе прывабны знешні воблік здаваўся дзяўчыне адбіткам унутранай прыгажосці і яснасці, і можа таму ўсё гэта выклікала ў маладой дзяўчыне захапленне і жаданне быць падобнай да яе.

Эмацыянальна - псіхалагічная развязка прыпадае на апошнія радкі апавядання: гэта смерць Каіпава і пісьмо Веры Мікалаеўны, такое доўгачаканае і такое зараз трагічнае. Незвычайную горыч, ад якой шчыміць сэрца, выклікаюць словы: «Друг мой! Родны мой! Якое шчасце, што мы зноў разам...»

Тэмы большасці апавяданняў зборніка падказаны ўспамінамі аб мінулай вайне, аб сябрах і спадарожніках ваенных гадоў, аб тых дарагіх нам людзях, якія з вайны не вярнуліся...

«Ты пайшоў насустрач вайне...» — адзін з лепшых лірычных твораў зборніка. Гэта ўсхваляванае паэтычнае слова пра салдата на вайне, пра салдата, які не вярнуўся. І нават лірычная асабістасць прысвячэння (...«Памяці Лазоўскага Івана Яфімавіча») неяк павольна перарастае ў нашай свядомасці ў абагульнены, велічны вобраз народнага болю і смутку, бо менавіта праз асабістае гора паўстае перад намі вялікае гора краіны.

Усе творы зборніка змацоўвае і цэментуе вобраз апавядальніка. Чалавечнасць і цеплыня гэтага вобраза як бы асвятляе сваім добрым святлом кожную расказаную гісторыю. Пісьменніца актыўна ўмешваецца ў жыццё, намагаючыся дапамагчы героям разабрацца ў яго складанасцях і перыпетыях. Яна як бы ахоўвае сваіх герояў ад недарэчнасцей і несправядлівасцей лёсу, ад людское чэрствасці, ад цяжкіх успамінаў вайны.

Асабліва востра адчуваецца гэтае аўтарскае суперажыванне ў апавяданні пра лёс вясковага хлопца - Чэсіка, жорстка пакрыўджанага вайной. Некалі на яго вачах фашыст застрэліў маці і маленькую сястрычку, і з той пары Чэсік зрабіўся палахлівым, блытаў відавочныя рэчы і нагул не памятаў свайго мінулага. Вяскоўцы смяяліся з яго, і ён адышоў ад людзей. Адзінокі, без людское ласкі, Чэсік увесь аддаецца вялікаму, але неўсвядомленаму каханню да «пані старшыніхі», якая стала для яго ўвасабленнем чалавечага, жаночага хараства і дабраты.

Алена Васілевіч, на нашу думку, здолела стварыць яркую эмацыянальную атмасферу твора. Пісьменніца прымушае нас разам з ёй шкадаваць яе герояў, да слёз спачуваць ім, любіць іх і захапляцца імі, калі яны гэтага варты. А ўздзейнічаючы на эмоцыі чытача, прымушаючы верыць ёй, аўтару, А. Васілевіч уздзейнічае на наша эстэтычнае і маральнае пачуццё.

Мы развітваемся з героямі кнігі, але спадзяёмся на хуткую сустрэчу з імі, з добрым і чалавечным талентам іх творцы.

Ю. ЯКАЎЛЕВА.

Алена Васілевіч. «Пісар страявой часці». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969.






Вокладкі кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Беларусь»,— «Дзе начуе сонца» Ул. Юрэвіча (мастак П. Калінін) і «Проста пра каханне» К. Цітова (мастак Ю. Кухараў).

# ХТО ЖЫВЕ ПАД ВАДОЙ?

Пры дапамозе свайго вечнага «чаму?» дзеці прагнуць пазнаць навакольны свет, пазнаёміцца з мноствам яго насельнікаў, даведацца пра іх таямнічае жыццё. Кожная птушка, рыба, казюрка — для малышоў загадка. У дзіцячым свеце неверагоднае можа атрымаць поўнае права на існаванне, а самыя звычайныя рэчы могуць здавацца казачнымі.

З разуменнем гэтай асаблівасці дзіцячага светаўспрымання і вядзе гаворку Васіль Зуёнак у сваёй кніжцы «Жылі-былі пад вадой» пра жыццё ў падводным царстве.

Незвычайны дзед з бабуляй, што прыйшлі з таго царства, ад імя якіх гаворыць аўтар кніжкі, традыцыйны казачны зачын абяцаюць маленькаму чытачу многа цікавага.

І абяцанні гэтыя спраўджваюцца. Кніжка цікавая: і тым, што ў ёй прадстаўлены жыхары падводнага царства, і тым, што яны паўстаюць перад чытачом са сваімі звычкамі, капрызамі, адносінамі да суседзяў.

Дзецям карысна будзе даведацца, што кожны з прадстаўнікоў падводнага свету па-свойму прыстасоўваецца да жыцця, выбіраючы найбольш зручныя і бяспечныя мясціны. Карась, напрыклад, любіць цёмныя месцы, дзе можа схавацца ад пражорлівага і драпежнага шчупака. Цяжэй даводзіцца мянтузу, які жыве пад карчом, бо туды часта зазірае стары сом, і бедны мянтуз часта праводзіць ноч, калоцячыся ад страху.

Васіль Зуёнак не забываецца, што піша ён для маленькіх. Таму жыхары падводнага царства часта надзяляюцца рысамі, уласцівымі дзецям. Героі кніжкі па-дзіцячы наіўныя, яны схільныя да спрэчак, любяць памарыць. Усё гэта як бы актывізуе малога чытача, прымушае яго думаць.

Часта ў апавяданні пісьменніка адчуваюцца ноткі гумару, добрай усмешкі. Прыгледзімся, напрыклад, да падводных жыхароў, да таго, як яны бавяць свой вольны час, аб чым мараць. Ці ж не смешным выглядае рак, які сабраўся ў кругасветнае падарожжа на веласіпедзе, а сам не можа дастаць да педаляў нагамі; або капрызная выдра, якая хоча памяняць сваё дарагое і цёплае футра на лісінае, хоць яно ёй зусім непрыгодна, бо прамакае ў вадзе.

Кніжка «Жылі-былі пад вадой» сведчыць аб тым, што майстэрства яе аўтара значна ўзрасло (раней ён выдаў для дзяцей кніжку «Вясёлы калаўрот»), што ў дзіцячым свеце ён, як кажуць, свой чалавек. Гэта і дазволіла Васілю Зуёнку цікава паказаць таямнічае, мала даступнае простаму назіральніку жыццё падводных жыхароў.

Верш, якім напісана апавяданне, эмацыянальны і меладычны.

Малышы, безумоўна, зацікавяцца кніжкай, бо, апрача тых добрых якасцей, пра якія мы гаварылі, яна яшчэ і прыгожа аформлена мастаком І. Някрасавым.

В. ЖГУТ.

Васіль Зуёнак. «Жылі-былі пад вадой». Выдавецтва «Беларусь». Мінск. 1969.

# У КРАІНЕ ШЧЫРАСЦІ І ДАВЕРУ

Што б там ні гаварылі, а ўсё ж існуе яна, дзіцячая паэзія, са сваімі вобразамі, думкамі, зместам, са сваім паэтычным светам. І ёсць у ёй свае паэты — людзі з вялікай і чуйнай душой, якія, пранікшыся ўяўленнямі маленькіх аб навакольным свеце, разумеюць іх думкі і жаданні. Яны асцярожна ўваходзяць у краіну багатай, але не вельмі ўстойлівай дзіцячай фантазіі, каб сваім добрым словам далучыць маленькіх да вялікага свету дарослых.

Гэй, хутчэй, шпарчэй, бягом!
На рачулцы крыгалом.
Там з напорнасцю ільвінай
Прэцца кожная ільдзіна.
Там на мосце гоман, тлум.
Там на мосце чуцен шум.
Лёд згрувасціўся — затор.

Людзі кідаюць дакор:
— Дзе былі? Хіба не зналі?
Зараз лёд паломіць палі...

Гэтыя радкі з верша «Крыгалом», які змешчаны ў новай кніжцы для дзяцей старэйшага нашага паэта Станіслава Шушкевіча «Вясёлыя дзятлікі».

Канечне, дзеці ў вершы «Крыгалом» не спынялі ільдзін, яны не выратоўвалі палі маста. Дзеці проста пускалі караблікі. Але пускалі менавіта тут. Яны бачылі і адчувалі трывогу дарослых і, незаўважна для сябе, уключаліся ў агульную справу, былі захоплены агульным клопатам.

Неяк вельмі проста і па-народнаму гожа пачынае паэт верш «Пасадзілі грушу-дзічку»:

Хіба ўсё раскажаш? Дзе там...
Як было, як адбылося...
Выкапалі бабка з дзедам
Ямку ля дарогі ўвосень.

Далей у ім гаворыцца пра тое, як дзічку аб'ела каза, бо «хлапчук нягожы — вырваў кій з той агарожы».

Аўтар імкнецца выхаваць у дзяцей пачуцці высакародства, уласнай годнасці.

Шчырай павагай да маленькіх, да іх «характару», звычак, непакоем за ўстанаўленне справядлівасці і міру паміж імі вызначаюцца вершы «Самакат», «Камарык», «Вясёлыя дзятлікі», «Свавольнікі» і іншыя. У іх паэт стараецца не толькі дакладна перадаць тую ці іншую з'яву або выпадак з ляснымі жыхарамі, але выразна акрэслівае і свае адносіны да таго, пра што расказвае. Па тоне, якім гаворыць паэт, мы добра разумеем, што яго абурае, што радуе, адчуваем яго жаданне давесці да маленькіх, што больш за ўсё на свеце цэніцца справядлівасць і шчырасць. Прычым, робіцца ўсё гэта неяк неўпрыкметку, без назойлівага павучання і маралі. Паэт дасягае гэтага сваім майстэрствам імгненна стварыць вобраз, займальна перадаваць жыццёвую сітуацыю:

Села я, села я,
Не магу падняцца
Сеяла, сеяла
Буракі на градцы.
(«Жэня-агародніца»)

Кніга С. Шушкевіча «Вясёлыя дзятлікі» ў асноўным населена жыхарамі лесу. Паказваючы іх жыццё, поўнае шматлікіх клопатаў і «канфліктаў», паэт як бы запрашае дзяцей дапамагчы разабрацца ўсім гэтым камарыкам і жучкам, зайкам і мядзведзікам у іх «найважнейшых» справах. І малыя ахвотна прыходзяць ім на дапамогу, суперажываюць разам з імі, бо яны хочуць аднаго: каб усім было добра і ўтульна, каб усе жылі ў згодзе і дружбе.

Ва ўсім гэтым дзецям дапамагае і мастак А. Шэвераў. Яго малюнкі, зробленыя з добрым і дасціпным густам, надаюць кніжцы яшчэ большую выразнасць і цікавасць.

П. ВІКЦЮК.

Станіслаў Шушкевіч. «Вясёлыя дзятлікі». Выдавецтва Беларусь». Мінск. 1970.




ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

**У. Аляхновіч.** Палескія навелы. Мастак Л. Чурко. 1970 г. Тыраж 7000 экз. 96 стар. Цана 10 кап.

**Ю. Багушэвіч.** Аповесць і апавяданні. Мастак Б. Забораў. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 100.000 экз. 160 стар. Цана 30 кап.

**І. Бурсаў.** Вясёлыя небылічкі. Мастак В. Шаранговіч. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 200.000 экз. 24 стар. Цана 24 кап.

**А. Грыцкевіч.** Слуцк. Гісторыка-эканамічны нарыс. Другое, перапрацаванае і дапоўненае выданне. Мастак Ю. Зайцаў. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 9000 экз. 112 стар. Цана 15 кап.

**Я. Колас.** У пушчах Палесся. Драма ў 4-х дзеях. (Паводле аповесці «Дрыгва»). Бібліятэка беларускай драматургіі. Мастакі У. і М. Басалыгі. 1970 г. Тыраж 2500 экз. 128 стар. Цана 24 кап.

**У памяці народнай.** Даведнік па месцах барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады ў Беларусі, за гонар, свабоду і незалежнасць сацыялістычнай Радзімы. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 20000 экз. 432 стар. Цана 1 руб. 02 кап.

**Курган славы.** Буклет. На рускай і беларускай мовах. 1970 г. Тыраж 300000 экз. Цана 14 кап.

**Манёўры «Дзвіна».** Мастак М. Бялецкі. На рускай мове. 1970 г. Тыраж 35000 экз. 400 стар. Цана 1 руб. 21 кап.



НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ШТОВЕЧАР А ПАЛОВЕ ВОСЬМАЙ...

*Народнаму артысту БССР Анатолю ТРУСУ — 60 гадоў*

Гады для акцёра, што тыя вёрсты, якія застаюцца за плячыма вандроўніка. Мінаюць, а сляды застаюцца. І калі мы, яго прыхільнікі, сустракаем знаёмую постаць і знаёмы твар недзе ў натоўпе гараджан, наша эмацыянальная памяць вядзе нас па тых слядах. А гэта — лёс людзей, якіх ён паказваў то загрымірованы да непазнавальнасці, то амаль са сваім тварам. Такі Анатоль Трус. Ёсць у гэтым чалавеку нешта акцёрскае ад прыроды. Не, не ў яго манеры трымацца сярод людзей і не ў схільнасці да анекдотнай балбатні. Вочы дзіўна і дзівосна мастакоўскія — у тым сэнсе, што яны глядзяць на нас дапытліва, «з прыцэлам», нібы выбіраючы «натуру» для чарговага творчага акту. Ды і сівізна яго, я сказаў бы, якаясьці артыстычная (такую насіў з гонарам Станіслаўскі). Гавару пра гэта, каб падступіцца да таго, што можа і не зусім дарэчы ў юбілей.

Было так. Віцябляне прыехалі на гастролі ў Мінск з шэкспіраўскім «Каралём Лірам», дзе галоўную ролю іграў А. Трус. Не ведаю, якімі шляхамі ходзяць чуткі, але ў Мінску пайшла пагалоска, што гэта роля — не з лепшых работ акцёра. Я сказаў пра гэта па сакрэце Аляксандру Ільінскаму, і той мяне папракнуў з ветліва-з'едлівай усмешкай: «Ну, ведаеце, артыст заўсёды бывае лепшы за сваю рэпутацыю. Ці горшы. Мы не ўмеем, калі хочаце, апраўдваць яе. Асабліва Толя...» І я пайшоў на «Ліра». Што ж, па-рэжысёрску спектакль і сапраўды не ўзнімаўся да вышыні тых дзяржаўных і філасофскіх праблем, што складаюць сутнасць гэтай трагедыі. Але ён — Лір... «Не знаеш ліха — на сэрцы ціха. Бура ж на душы ўсе пакуты цела заглушае. Спазнаў я боль адзін, і гэты боль — дзяцей уласных няўдзячнасць! Тут усё роўна, як галодны рот кусаў бы за руку, што рот той корміць. Я ім адпомшчу!», — здабыўшы аднекуль з глыбіняў сэрца трапяткі гнеў старога караля, А. Трус узрушыў залу і як бы вызначыў кірунак усяго спектакля. Тыя меркаванні, якімі прадыктаваны яго ўчынкі як караля, адступілі на другі план, і на сцэне ён. Лір, «трымаў» споведзь бацькі, які некалі быў сляпы ў зацятай, раздуранай каралеўскай велічы, а на схіле жыцця раптам адчуў патрэбу пераканацца, што яго любілі, прынамсі дзеці, не за карону на галаве.

Ад сцэны да сцэны Лір, якім яго іграў А. Трус, спускаўся ў пекла вялікіх выпрабаванняў. Неяк вельмі па-чалавечы ён прызнаваўся, што не адразу «раскусіў іх і прынюхаўся, чым яны сапраўды пахнуць. Што гаварыць! Гэта — несусветныя крутадухі і падманшчыцы. Паслухаць іх, дык я — усё на свеце: багацейшы і дужэйшы за ўсіх. Мана! Ліхаманка здужала мяне пры першай схватцы». Артыст вельмі рэдка ўзнімаўся «на каралеўскія вяршыні», ён разам са сваім Лірам блукаў па «нізінах» звычайных чалавечых пачуццяў, шукаючы праўды. Яго герой часта бываў і незразумелым у сваім жаданні «без кароны» знайсці любоў былых падуладных і дачок, злаваўся, у адчаі бываў нават брыдкім. Стары, які так здабывае суровую ісціну жыцця, успрымаўся намі сапраўды дурнаватым дзіваком. І гэта было яго, А. Труса, творчай смеласцю: ён не стараўся дэманстраваць «высакароднага» і «мудрага» караля, які так горка памыліўся, пачаўшы сваё «мерапрыемства» ў дзяржаве і ў сям'і. Ідучы за духам шэкспіраўскай трагедыі, артыст апускаў уладара на грэшную зямлю і тут прымушаў яго пакутаваць і прасвятляцца. Ва ўзросце Ліра гэта не прыносіць радасці ні яму самому, ні тым, хто побач з ім, ні нам, у зале. Нават у бытавых падрабязнасцях, у тым, як гэты Лір папраўляў адзенне, хадзіў, садзіўся, вымаўляў словы то шэптам, то патэтычна, — ва ўсіх паводзінах караля было штосьці ад старога і некалі моцнага мужыка-асілка. Ён у маладыя гады паверыў, што тытул і бязмежная ўлада могуць даць яму шчасце на ўсё жыццё, бо ўсе навокал толькі тое і рабілі, што пакорліва адказвалі «так» альбо «не». Цяпер, калі ён не кароль, а чалавек без улады, амаль усе пярэчаць яму. І ён злуецца ў гневе...

Беларускі Лір то волатам, а то пігмеем на сцэне, як на вялікай далоні зямлі, трымаў адказ за тое, што зрабіў для сябе і для людзей. Часам хацелася паспачуваць яму, часам і паслаць праклён тырану, які сам разгубіўся, страціўшы ўладу. Праз складаны малюнак ролі выразна прабівалася на авансцэну трагедыя бацькі, які толькі на парозе магілы адчуў патрэбу ў звычайнай сардэчнасці з боку родных дачок, сардэчнасці, што абяцае прытулак староему. Гэта трагедыя і выратоўвала ўвогуле «тэатралізаваны» ва ўсіх кампанентах, але пазбаўлены глыбіннага пранікнення ў Шэкспіра спектакль. Лір быў надзвычай зямны, я дазволю сабе нават сказаць — па-наватарску зямны. І гэта, а не веліч караля, пазбавіўшыся якой так прыгожа гіне звычайна на сцэне ўладар, зрабілася галоўным.

Калі я падзяліўся сваімі ўражаннямі з А. Ільінскім, той спаслаўся (адносна рэпутацыі) на Бамаршэ: гэта Фігара ў адказ на пільнасць графа кажа, што чалавек заўсёды бывае лепшы за сваю рэпутацыю. «А Лір у Анатоля атрымаўся «горшым» чалавекам за той тэатральны штамп, з якога, здавалася б, і не вырвацца! Быць прасветлена мудрым і надакучлівым Лірам... Гэта — мужнасць акцёра». Не пагадзіцца з ім я не мог.

Не мог, бо наогул А. Трус — мастак, які трывала стаіць на зямлі. Ён лёгка і свабодна адчувае сябе тады, калі яго герой зямны. Хай сабе рысы персанажа завостраны, падкрэслены, па-гаральефнаму ярка выпуклены, як гэта зроблена, скажам, у гогалеўскім суддзі Ляпкіне-Цяпкіне, аднак «жыццёвы падмурак» у сцэнічнага вобраза павінен быць абавязкова. Тады гэты артыст пачынае паказваць цуды — натуральна і шчыра льецца яго мова, сакавітая ў адценнях, трапна і шматзначна выглядае жэст, а нямую партытуру ролі перадае на дзіва выразная міміка.

Вышэй я паспрабаваў як бы зазірнуць у люстра, дзе адбілася аблічча шэкспіраўскага героя. Падыходжу да другога люстра — адваката Сяргея Васільевіча Басава, героя «Дачнікаў» М. Горкага. Ён намагаецца выглядаць і асабліва «гучаць» арыстакратам духу, знаўцам модных тэасофскіх, юрыдычных, сацыяльных і розных іншых модных плыняў. Барані божа, каб хто здагадаўся, што перад ім ніякі не арыстакрат, а плябей. Ён выбіўся з гразі ў князі і таму ўдвая аддана служыць справе, якая трымае яго на паверхні, як яму здаецца, прыстойнага і прыгожага жыцця. Дзеля красамоўнага слова ён аддасць нават... жонку. Толькі дайце яму пакрасавацца, паказаць сябе самым вольнадумным з жуіраў, самым прагным сярод эпікурэйцаў, самым дасціпным сярод хатніх сатырыкаў! Анатоль Трус заставаўся натуральным на працягу ўсяго спектакля: ну што зробіш, калі гэты адвакат-дачнік так любіць «вяшчаць», так паважае каньяк, так клапоціцца аб сытным стале. А ў выніку атрымліваўся сацыяльна злы тып абаронцы існуючага ладу, якому патрэбны «парушальнікі спакою і парадку» толькі таму, што яны — яго кліенты, яны даюць яму не абы які ганарар. Толькі такія «злачынцы» і патрэбны, на думку Басава — Труса, грамадству, а ў астатнім ён «ахоўнік» па прызванні. Ва ўмовах перадрэвалюцыйнай Расіі — фігура агідная, і акцёр выкрываў яе з пачуццём мастацкай меры, тактоўна і бязлітасна. Калі яго Басаў чуе, што «мы павінны заўсёды ўзнімаць нашы патрабаванні да жыцця і людзей», ён горача адстойвае сваю «праграму». «Але ў межах магчымага... Усё адбываецца павольна... Эвалюцыя! Эвалюцыя! Вось пра што не трэба забываць!..» Акцёр філігранна распрацаваў інтанацыі выказванняў героя.

Трэцяе люстра — Мацей з «Несцеркі». Ну, вядома, гэтаму персанажу няма чаго і цягацца з галоўным героем, з Несцеркам, але ж як любіць А. Трус іграць гэтую другарадную ролю! Зрэшты, ён мог бы і імя насіць не Мацей, а Анатоль. Толькі вы яго ўбачыце на сцэне, адразу верыце, што гэта трохі скептычны, трохі зухаваты, трохі «сабе на ўме» мужык, якому аж карціць прыняць удзел у самых гарэзных прыгодах таго ж Несцеркі. Ды нешта стрымлівае. Вочы хітрушчыя, усё бачаць навылёт, а розум бывае і замарудзіць: гэта тады, калі трэба самому штосьці адразу ж зрабіць. Не, тут пачакайце, пачакайце... А камедыйны ход падзей не чакае, і Мацей, захоплены дыспутам, сваркамі, балбатнёй і сур'ёзнымі справамі, жыве ў гэтым чароўным свеце байкі-быval ьшчыны, нібы ён і народжаны для таго, каб быць у ёй дзеючай асобай.

Калі б я паспрабаваў хоць хвілінку пастаяць каля кожнага люстра, дзе адбіваюцца твары герояў А. Труса, у мяне не хапіла б і сутак. Мастак штовечар а палове восьмай ідзе да люстра і ў апошні раз перад выхадам на сцэну правярае сябе — ці здолеў ён зазірнуць у душу персанажа. Прафесіянальнай прывычкі ў яго не выпрацавалася, і кожны спектакль ён пачынае з таго, што хвалюецца. Мы гэтага не заўважаем. Для нас ён — той, каго сёння яму выпадае паказваць у святле рампы як вобраз з жывога жыцця, аб якім артыст А. Трус мае сваю думку мастака і грамадзяніна. Раскрыецца заслона — і вы даведаецеся, як ён сваім мастацтвам судзіць чалавека, даючы нам карысныя і эмацыянальна яркія ўрокі характва... І калі вы пакідаеце тэатр хоць трошкі багацейшыя на добрыя пачуцці і валявы імпэт у імкненні да гэтага характва скажыце дзякуй яму, Анатолю Міхайлавічу Трусу. Ён варты гэтага.

Барыс БУР'ЯН.



Лір



Мацей

Фота С. КОХАНА.

*Паэтычная* ПАВЕРКА

Уладзімір КАРЫЗНА



## ПАРОНІН

Дарога,
як птушка нястомная,
Нас нясе.
Вось ужо і Татры
Адкрываюцца пакрысе.

І шчыт Гевонта
Пад вераснёвай зарой —
Нібыта жаўнер стамлёны
Ляжыць на гарах спіной.

З абоймаў горнага лесу
Вылятаюць арлы,
Упіўшыся ў сінь неба,
Вісяць над хмарай скалы...

Белы Дунаец пад рукі
Узяў нас
І звонкім ключом
Адмыкае дзверы ў Паронін,
У просты гуральскі дом.

Тут Ленін жыў.
Стол і ложак
Хаваюць яго цяпло.
Па гэтых паперах мора
Думак ягоных цякло.

Тут Ленін быў.
І дыханне
Яго адчуваю ва ўсім —
У словах сяброў-палякаў,
У песні нізін...

## АСВЕНЦІМ

Які ты страшны, Асвенцім.
Нат само слова
З дроту калючага:
Вымаўляеш — колецца
ў сэрца.

Тут неба, і вецер, і дрэвы
З попелу закатаваных,
І ты імі дыхаеш...

Тут карпусы смерці
Спрасаваныя з плачу, гора,
нядолі,
Яны не моўкнуць і сёння...

Тут піліпаўка — хоць выкалі
пальцам вока —
Ад гор валасоў,
Панчошак і туфляў...

Тут я заблудзіўся б і згінуў,
Што ў пекле старога Дантэ,
Калі б вакол не свяціліся
Сэрцы сяброў...

● ● ●

Паклаўшы руку на сэрца,
Чую: тоўхае, б'ецца
Крынічка —
для гэтага неба,
Што як далонь,
прапахлая жытнім хлебам,
Для гэтага бору,
Вачэй чабору,
Азёр,
што палаюць полымем
сінім,
Для гэтых пяшчотных травінак,
Што як валасы любага сына.
Б'ецца крынічка
І ў дзень спякотны, і ў зімні.
Сама яна —
з неба,
Азёр,
Бору,
Чабору,
Травінак...

*Яшчэ адзін агляд мастацкай самадзейнасці... Яшчэ адзін россып мелодый, фарбаў, моўнага, харэаграфічнага, тэатральнага багацця народнай душы. Усё гэта захапляе на канцэртах конкурснага агляду, прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. Парадавалі многія калектывы, выканаўцы. Але, разам з тым, вынікі агляду беларускага самадзейнага мастацтва наводзяць на роздум, выклікаюць спрэчкі.*

*На гэтых старонках мы і змяшчаем выказванні людзей, якія добра ведаюць наша народнае мастацтва, зацікаўлены ў далейшым яго росквіце, маюць цесныя сувязі з ім, прымалі актыўны ўдзел у правядзенні апошняга рэспубліканскага агляду-конкурсу.*



Выступае танцавальная група Народнага ансамбля песні і танца Рэчыцкага гарадскога дома культуры.

# СКАРБЫ НЕКРАНУТЫЯ

Гэтыя свае нататкі хочацца пачаць з гаворкі пра самадзейныя драматычныя калектывы Міншчыны. Калі ацэньваць іх рэпертуар з ідэйнага боку, дык ён не выклікае пярэчання. Калі ж меркаваць аб яго мастацкім увасабленні ў калектывах, дык ён здзіўляе незавершанасцю, непрадуманасцю, не кажучы ўжо пра адсутнасць ансамблевасці і прафесіяналізму.

Асабліва кепскае ўражанне ад народных тэатраў і іх рэжысуры. Ці то знізілася патрабавальнасць да іх з боку дамоў народнай творчасці, ці то аслабла шэфская дапамога, але нават такі папулярны тэатр, як Цімкавіцкі (спектакль «Сінія росы»), паказаў сябе кепска. Цэласнага мастацкага адзінства не ўбачылі мы таксама ў спектаклях «Паміж ліўнямі» (народны тэатр Маладзечанскага Дома культуры), «Галодных гадоў адысея» (Барысаўскі народны тэатр). Па невядомых прычынах зусім не прыехалі на агляд народныя тэатры Слуцка і Старых Дарог.

Не ў лепшай «форме» сёння і народныя тэатры Мінска, калі не лічыць калектыву трактаразаводцаў (спектакль «Паэма аб сякеры» па п'есе М. Пагодзіна, рэжысёр А. Бяляеў).

Больш паспяхова выступілі самадзейныя драматычныя гурткі. Лепш было ў іх і з беларускім рэпертуарам. Удаліся спектаклі «Чырвоныя кветкі Беларусі» (драматычны калектыў Пухавіцкага раённага Дома культуры, рэжысёр В. Мазанік) і музычна-драматычная кампазіцыя «Яснае світанне» ў выкананні аматараў Мядзельскага РДК (рэжысёр С. Ходас). Нават п'еса В. Вольскага «Несцерка» ў пастаноўцы аматараў з Астрашыцкага Гарадка натуральна дапасавалася да юбілейнага рэпертуару.

Думаецца, што народныя тэатры заспакоіліся пасля прысваення ім ганаровага звання. Дык можа варта ставіць пытанне аб тым, каб некаторыя калектывы пазбаўляюць гэтага ганаровага звання?

Крыўдна, што на сцэну незаслужана рэдка выходзіць нацыянальны рэпертуар. На афішах народных тэатраў бачым імёны І. Прута, В. Собалева, Л. Рахманава, М. Пагодзіна і вельмі рэдка сустракаем Купалу, Коласа, Крапіву, Міровіча, Галубка, сучасных беларускіх драматургаў.

Часта можна чуць ад рэжысёраў: «Дайце нам арыгінальную п'есу і мы...» Калі ж парэкамендуеш звярнуцца да скарбаў беларускай літаратуры, да драматургіі 20—30-х гадоў, то аказваецца, што людзі не ведаюць яе і проста адмахваюцца — старое... Між тым, народны тэатр Цімкавіч знайшоў у архівах «Ганку» Ул. Галубка, і яна стала цэлай падзеяй на адным з аглядаў, трывала ўвайшла ў рэпертуар самадзейных калектываў. А ў Галубка не адна толькі «Ганка». «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, якое ўсе абыходзілі, у пастаноўцы Мазырскага народнага тэатра трапіла аж на Крамлёўскую сцэну. А хіба творчасць Я. Купалы вычэрпваецца толькі трыма п'есамі? Чаму б не даць сцэнічнае жыццё купалаўскім драматычным паэмам, творам Я. Коласа, Ц. Гартнага, А. Александровіча?

І яшчэ некалькі заўваг увогуле па самадзейнасці.

Самадзейная творчасць — рэч трапяткая, далікатная, ідзе ад шчырага сэрца і непасрэдных пачуццяў. Калі ж яе бясконца вазіць па дэкадах, конкурсах, фестывалях, гэтая кранальнасць і непасрэднасць знікае. Такое адбываецца сёння з многімі самадзейнымі калектывамі, якімі яшчэ нядаўна мы захапляліся. Маю на ўвазе папулярныя калектывы ўсіх жанраў, што пабывалі за межамі рэспублікі і краіны, адчулі слодыч лаўраў і славы. Яны набылі майстэрства, але непрыкметна страцілі той непаўторны водар, без якога няма народнай творчасці.

Чамусьці год у год мы ўсё больш аддаём перавагу калектывам, у якіх прыгажэйшыя касцюмы, большая масавасць, багачэйшы рэпертуар. Ці не падводзіць нас крытэрый адбору? Гэты папрок я адрасую членам журы і рэжысёрам заключных канцэртаў, якія павінны ўлічваць не толькі высокае майстэрства, але і тое, хто з кім спаборнічае, у каго якія ўмовы.

У 1960 годзе быў упершыню праведзены асобны агляд сельскай мастацкай самадзейнасці. І мы аб гэтым не пашкадавалі. Колькі выявілася свежых і непаўторных талентаў, выдатных самадзейных гурткоў! Калгасныя артысты не засланяліся калектывамі прадпрыемстваў і гарадскіх палацаў культуры, дзе магчымасці для работы гурткоў непараўнальна лепшыя.

Цяпер жа ў аглядах самадзейнасці ўсё мацней адчуваецца арыентацыя на калектывы культасветустаноў, музычных вучылішчаў, на буйныя сімфанічныя аркестры. Але хіба вучэбны матэрыял і прафесіянальныя навыкі студэнтаў музычных вучылішчаў — гэта самадзейнасць, хіба гэта народная творчасць?

Мы часта гаворым: самадзейны агляд — гэта свята. І забываем, як нялёгка ўсё гэта даецца тым, хто выступае на сцэне. У дні вялікіх аглядаў у Мінск прыязджаюць тысячы людзей. На сцэнах нашых тэатраў духата, шмат людзей. Адны выступаюць, другія чакаюць сваёй чаргі, трэція, выступіўшы, збіраюцца дамоў...

Вось і ўсё свята для аматара. А ён, напэўна, з заміраннем сэрца чакаў гэтага дня, з вялікай надзеяй ехаў у Мінск, каб не толькі самому выступіць, але і пабачыць мастацтва сваіх калег, павучыцца, узбагаціцца ўражаннямі.

Думаецца, што агляды лепш рабіць летам, размяшчаць удзельнікаў самадзейнасці, калі не хопіць гасцініц, у палатачных гарадках, цягніках і пакідаць іх у горадзе на ўсе дні агляду, каб яны пазнаёміліся адзін з адным, змаглі разам абмеркаваць свае выступленні. Варта падумаць і аб арганізацыі для іх экскурсій па горадзе і музеях, сустрэч аматараў з вядомымі артыстамі, пісьменнікамі, са спектаклямі ў прафесіянальных тэатрах.

І яшчэ: калі гэта свята, дык чаму б не скончыць яго агульным карнавалам удзельнікаў агляду, масавым шэсцем па горадзе? Чаму канцэрты паказваюцца толькі членам журы ды невялікай колькасці гледачоў?

**С. ПЯТРОВІЧ,**
кандыдат мастацтвазнаўства.

# КАЛІ НАЗВА— НАРОДНЫ

БАГАТАЯ праграма ў самадзейных калектываў Беларусі. Выканаўчае майстэрства многіх з іх настолькі вырасла, што часам здаецца, нібы перад табой прафесіянальныя хоры. І нічога дзіўнага. Кіруюць імі людзі высокай культуры, сапраўдныя мастакі — А. Валынчык, М. Шошчыц, У. Башко, М. Батштэйн і многія іншыя.

Слухаў я хоры Мінскай вобласці. Вельмі спадабалася народная харавая капэла Лебедзеўскага сельскага клуба Маладзечанскага раёна. Я даўно сачу за творчасцю лебедзеўскіх спевакоў. Гэта калектыў даволі высокага майстэрства. А якія багатыя тадыцыі ў Марачанскім народным хоры Клецкага раёна!

Казловіцкі народны хор са Случчыны, Натальеўскі з Чэрвеньшчыны, хор Палаца культуры гарнякоў з Салігорска, вакальна - харэаграфічны ансамбль «Лявоніха» з Бярэзіншчыны... Гэтыя і іншыя калектывы яшчэ і яшчэ раз пацвярджаюць вялікую песенную культуру беларускага народа.

І ў той жа час на канцэртах хвалявала таксама іншае. Усё часцей пачало здарацца, што добрай мелодыі, якая заўсёды была душой песні, трэба прарывацца ў канцэртную залу як бы з чорнага ходу. Псеўдаджазавыя «шэдэўры» ўсё часцей выжываюць народную песню, арганічную для душы беларусаў.

Ці даўно з такім замілаваннем мы слухалі ў Мінску капэлы трактарнага завода, Палаца культуры прафсаюзаў, Дома культуры ўпраўлення бытавога абслугоўвання, універсітэта, аўтазавода і іншых? Куды падзелася іх своеасаблівае творчае аблічча? Усё расплылося, размылася з-за выпадковага рэпертуару. І гэта— народныя калектывы? Званне ж народнага калектыву абавязвала да іншага — ставіцца да выканання рэпертуару, творчай манеры з самымі высокімі патрабаваннямі.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць капэлу трактаразаводцаў, якой кіруе малады здольны хормайстар М. Дрынеўскі. Гэта калектыў сапраўды высокага выканаўчага майстэрства, у праграме якога сёння цудоўна гучаць песні савецкіх кампазітараў. Але і Дрынеўскі адвёў беларускай народнай песні другараднае месца.

Некаторыя кіраўнікі хораў наогул забываюць пра народную песню, пагарджаюць ёю. На маю думку, гэта адбываецца з-за таго, што яны ўвогуле не ведаюць народнага меласу, эстэтычную глухату да сапраўднага харавога прывілі ім модныя творы-аднадзёнкі.

Прыгадваеш Прыбалтыку з яе святамі песні, Украіну, закаўказскія рэспублікі. Мне даводзілася там бываць не раз. Народныя песні і мелодыі на гэтых святах пераважаюць. Я не кажу, каб узводзіць беларускую народную песню ў нейкі культ. Але надышоў час, каб наша песня заняла дастойнае месца ў рэпертуары — яна таго заслугоўвае.

**Д. РУЛІНСКІ,**
хормайстар Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР.

# ДБАЦЬ ПРА ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ

**У Бабруйску я добра ведаю самадзейныя мастацкія калектывы, іх кіраўнікоў, выканаўцаў. На апошнім аглядзе мастацкай самадзейнасці, як член журы, пабываў на ўсіх конкурсных выступленнях. Многае падабалася, многае — не. Бачыў поспехі асобных калектываў, але многае і засмучала.**

**Кожны раз, крытычна ацэньваючы многія выступленні, канцэртныя праграмы, асобныя нумары, я цікавіўся і думкамі іншых людзей, спецыялістаў, выканаўцаў. Хочацца, каб гэтыя думкі не засталіся непачутымі.**

**Усе гэтыя думкі не проста цікавыя. У іх— клопат аб заўтрашнім дні народнага мастацтва. Да іх варта прыслухацца.**

**М. ПЛОТКІН,**
кіраўнік хору Дома культуры фанера-дрэваапрацоўчага камбіната:

— Для таго, каб развучыць песню, хору патрэбна два—тры месяцы. Рэспубліканскі Дом народнай творчасці і міністэрства культуры правялі конкурс на стварэнне песень, прысвечаных ленінскай тэме. На конкурс паступіла нямала добрых песень, але вынікі конкурсу падведзены пасля таго, як прайшлі гарадскія і абласныя агляды. Мы шукалі новых песень пра Леніна, а яны адлежваліся ў сталах конкурснай камісіі.

**Э. ЗАВАДСКАЯ,**
выканаўца народных песень:

— Я — беларуска. Люблю сваю мову, багацце беларускай песеннай культуры. Усё гэта любіць і наш слухач. Але дзе песні беларускіх кампазітараў, напісаныя ў народным плане? Прыходзіцца спяваць песні Панамарэнкі, Аверкіна. Добрыя песні, задушэўныя. Я спяваю і беларускія «Ты мне вясною прыснілася», «Рэчыцкую лірычную» — добрыя песні, але створаны яны даўнавата.

**Н. БАЛОТНІКАЎ,**
кіраўнік тэатра мініяцюр пры Доме культуры фанера-дрэваапрацоўчага камбіната.

— Жывём мясцовым матэрыялам, такая спецыфіка тэатра. Самі пішам сцэнарыі, скетчы, прыпеўкі. Але ж мы не пісьменнікі, не паэты. Мы — выканаўцы. Хацелася б мець добры літаратурны матэрыял. А дзе яго ўзяць? Не капіраваць жа Райкіна, Міронаву, Менакера!.. У нас сваё жыццё — свой і рэпертуар павінен быць.

**Л. КРЫШТАФОВІЧ,**
кіраўнік харэаграфічнага калектыву гарадскога Дома настаўнікаў:

— Беларуская харэаграфічная культура заўсёды вызначалася прыгажосцю карагодаў. Але, незразумела чаму, карагоды пакідаюць сцэну. Тэмперамент сучасных танцаў, яго імклівасць не пярэчаць карагоду. А, між тым, у метадычных распрацоўках танцаў, што дасылаюцца нам, ёсць і бойкасць, і эстрадныя штампы, толькі няма прыгожых карагодаў. Думаецца, што ў рэспубліцы ёсць дастаткова вопытных прафесіянальных калектываў і асобных харэографаў, якія маглі б стварыць новыя сучасныя карагоды, багатыя нацыянальнымі традыцыямі і фарбамі.

**М. КОГАН,**
член гарадскога журы.

г. Бабруйск.



Спявае хор Слаўгарадскага РДК.

# ЯКІ ВЕК СПЕКТАКЛЯ?

Прэтэнзій тут заўсёды вельмі многа. І калі гэта размова пра народныя самадзейныя тэатры, то ўсе прэтэнзіі звычайна—да іх кіраўнікоў. Мне ж думаецца, што прэтэнзіі трэба адрасоўваць не толькі нам. Рэкамендацыйныя спісы, што дасылаюцца нам дамамі творчасці, складаюцца без уліку творчых магчымасцей тэатраў, без кансультацый з рэжысёрамі вядучых тэатраў рэспублікі. А між тым многія тэатры ідэйна і творча значна выраслі, лепшым з калектываў можна было б даць права самім вызначаць свой рэпертуар, зыходзячы са сваіх творчых магчымасцей. Бо ніхто не ведае лепш творчых рэсурсаў калектыву, чым яго кіраўнікі і акцёры.

Да кожнага спектакля вядзецца вялікая падрыхтоўчая работа. Але вядзецца яна ўсё ж бессістэмна, добра не прадумана. Прычына? На 50—70 акцёраў усяго адзін рэжысёр і загадчык пастановачнай часткі. Ці змогуць яны забяспечыць сапраўдную педагагічную, выхаваўчую, творчую работу ў калектыве? Наспела неабходнасць перагледзець штаты народных тэатраў, укамплектаваць іх пастаяннымі педагогамі.

Ёсць шмат неадпаведнасцей і ў Палажэнні аб народных тэатрах. Звычайна спектакль на нашай сцэне жыве 10—15 паказаў. Пасля яго жыццё канчаецца. А колькі сродкаў, творчых намаганняў затрачана! Ці не час падумаць пра век спектакля? А гэта не так цяжка і зрабіць. Пакуль што не плануюцца выезды народных тэатраў ні дамамі творчасці, ні ведамаснымі арганізацыямі. У рэспубліцы больш за 40 народных тэатраў. Чаму б Белсаўпрофу, дамам творчасці не наладжваць абменныя гастролі паміж імі, чаму б не праводзіць справаздачы асобных тэатраў у Мінску і іншых гарадах рэспублікі?

Да 100-годдзя з дня нараджэня У. І. Леніна наш тэатр паставіў спектакль па п'есе М. Пагодзіна «Паэма аб сякеры». Спектакль вялікі, масавы. І вельмі хочацца, каб гэты спектакль, якому аддадзена столькі працы і натхнення, не пражыў век матылька, каб праз 10—15 выхадаў на гледача ён не памёр.

**А. БЯЛЯЕЎ,**
галоўны рэжысёр Народнага тэатра Дома культуры Мінскага трактарнага завода.



Чытальніца Ніна Пасюкевіч, работніца Баранавіцкай трыкатажнай фабрыкі.

# НЕСЦЕРКА НА ЭСТРАДЗЕ

Мы ведаем Несцерку. Бачылі яго на сцэнах тэатраў, смяяліся разам з ім, гартаючы старонкі п'есы Віталя Вольскага. І вось зноў знаёмства, крыху нечаканае: Несцерка стаў героем сцэнарыя агітбрыгады Дома культуры дзевятага будаўнічага трэста Віцебска. Смела, з уласцівым яму гумарам, дасціпнасцю, праніклівасцю Несцерка выходзіць на сцэну і становіцца змагаром за чысціню нашай маралі, быту. Зроблена гэта без нацяжак, арганічна, весела.

Глядзіш, і думаеш: так, для таленавітай агітбрыгады няма немагчымых жанраў, недасягальных літаратурных вобразаў.

Агітбрыгада будаўнікоў і раней вызначалася арыгінальнасцю выкарыстання самых розных мастацкіх жанраў, калі з аўдыторыяй трэба было весці вострую, прынцыповую, палітычна завостраную размову. Няма ў трэсце той будаўнічай пляцоўкі, таго аб'екту, дзе б ні выступала брыгада. Яна аб'ездзіла нямала калгасаў і саўгасаў Віцебскага раёна. Нядрэнна выглядаюць праграмы агітбрыгад Аршанскага ільнокамбіната, наваполацкіх нафтавікоў, Віцебскага педінстытута і фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі».

Але многія недахопы агітбрыгад вобласці становяцца ўжо традыцыйнымі. Часцей яны ідуць ад сцэнарыяў, якім не хапае адзінага сюжэтнага стрыжня, публіцыстычнай вастрыні. Вельмі часта для сцвярджэння станоўчага калектывы выкарыстоўваюць толькі песні ды вершы, адмоўнае ганьбуюць толькі ў пародыях і прыпеўках. Нестае дасціпных пантамім, інтэрмедый. Часта пошукі формы, мастацкіх сродкаў зводзяцца на нішто драбнатэм'ем.

Мастацкім агітбрыгадам сёння вельмі патрэбна метадычная дапамога, вучоба ў лепшых калектываў. Дамы народнай творчасці і прафесіянальная эстрада абавязаны дапамагчы ім у гэтым.

Агітбрыгады — гэта носьбіты мастацтва і палітыкі, партыйныя агітатары. А таму і ўвага да іх павінна быць значна большай, канкрэтнай, эфектыўнай.

**Н. ЛЯДЭНКА,**
член журы Віцебскага абласнога агляду агітбрыгад.




# СПОВЕДЗЬ УСХВАЛЯВАНАГА СЭРЦА

Адбылася музычная прэм'ера, аб якой я не магу не сказаць хаця б кароткае слова, — упершыню публічна выконвалася Сімфонія Генрыха Вагнера. Імя гэтага беларускага кампазітара вядома шырокаму колу слухачоў не толькі нашай рэспублікі. Да жанру сімфоніі раней ён ніколі не звяртаўся. Таму прэм'ера выклікала цікавасць музычнай грамадскасці Мінска.

Асноўны змест гэтага твора — усхваляваны роздум сучаснага чалавека, захопленага жыццём ва ўсім яго багацці і разнастайнасці. Шырокую плынь аптымізму нясе галоўная і пабочныя тэмы музыкі. Добра, што кампазітар пазбягае пампезнага гучання і не «грукоча» ў барабаны, каб перадаць жыццерадаснае ўспрыняцце жыцця. Наадварот. Сімфонія пачынаецца ўступам віяланчэляў і кантрабасаў, да якіх далучаюцца кларнет і флейта ў нізкім рэгістры, і так узнікаюць два празрыстыя струмені, якія нібы падрыхтоўваюць інтанацыйна з'яўленне галоўнай партыі. Яна пабудавана на квінта-квартавым счапленні. Лірычная, пявучая і часам па-гарэзнаму танцавальная партыя кантрастуе гэтай, галоўнай, і паступова пераходзіць у цікавы заключны акцэнт першай часткі. Музыка ўцягвае слухача ў светлы і трошкі насцярожаны «клімат» інтэлектуальнага роздуму героя твора.

Распрацоўка — імклівае фугата, пабудаванае на супрацьпастаўленні струнных інструментаў меднай і драўлянай групам. Тут, на маю думку, аўтар дасягае велізарнай сілы гучання аркестра, у якім не губляюцца выказванні асобных інструментаў. Перад слухачом раскрываецца характар, схільны да актыўных дзеянняў і барацьбы з перашкодамі, якія жыццё ставіць перад чалавекам. Заклікі медных інструментаў, якія нібы перапыняюць адзін аднаго ў імітацыях, падкрэсліваюць драматызм і сталасць пачуццяў напружанага ў змаганні валявога чалавека. Пасля такога інтэнсіўнага развіцця зваротны матэрыял пабочнай партыі істотна ператвараецца і паліфанічна пераплятаецца з галоўнай партыяй. Гэтым прыёмам Г. Вагнер стварае тонкае гарманічна-інтанацыйнае адзінства.

Слухаючы сімфонію, я адчуў, што яе аптымізм і цэльнасць эмацыянальнага свету абумоўлены перш-наперш яснай ідэйнай задумай. Для мяне гэтая задума мае ў цэнтры вобраз маладога савецкага чалавека са здаровым светаўспрыманнем. Так, бывае, што яго чакаюць выпрабаванні, але ён гатовы пераадолець цяжкасці на шляху да светлай і высакароднай мэты. Герой — актыўная асоба.

Другая частка — пасакалля-паліфанічная форма, дзе паўтараецца баявая тэма, на фоне якой свабодна развіваюцца верхнія галасы. Ідзе пераклічка з пачаткам першай часткі. А музыка перадае больш спакойны і засяроджаны роздум чалавека, які нібы застаецца сам-насам з прыродай. Зноў жа духоўны стан яго па-трапяткому прасветлены і валявы.

Пафас задумы Першай сімфоніі Г. Вагнера непасрэдна перададзены ў монатэматычнай музычнай тканіне твора. Гэта і робіць твор ладным і кампактным. Але «нечакана» ў другую частку ўрываецца хуткае скерцафінал, напісанае ў форме ронда. У музыцы пачынае гучаць як урачыстая перамога маладых пачуццяў (тут дасціпны гумар і танцавальныя рытмы гаспадараць у музыцы). Твор узнімаецца да апафеозу, які сцвярджае душэўнае харaство героя, што з гонарам выходзіць з жыццёвых выпрабаванняў і зліваe свой імпэт з настроем народнага свята.

І на гэты раз Г. Вагнер прадэманстраваў цікавае сімфанічнае мысленне, якое адчуваеш у яго ўменні арганічна развіваць тэмы, трансфарміраваць іх у кантрастныя, розныя па характары меладычныя вобразы. Фактура твора багатая цікавымі рытмічнымі і паліфанічнымі дэталямі. Ясная гарманічная мова сімфоніі. Асабліва дарагімі для мяне былі тыя рысы кампазітарскага таленту Г. Вагнера, якія мы ведалі і па ранейшых яго творах, — аптымістычнае адчуванне жыцця і ўменне быць па-сапраўднаму сучасным, без такіх модных цяпер намаганняў абавязкова выглядаць арыгінальным і штучным. Цікава аркестравана сімфонія — аўтар карыстаецца багаццем і прыгажосцю арфы, чэлесты і многіх ударных інструментаў. Наогул тэхнічная аснашчанасць сімфоніі вельмі задаволіла мяне.

Кажуць, музыка, у адрозненне ад набору гукаў, хай сабе і арыгінальна-«арганізаванага», абавязкова нешта гаворыць чалавеку, раскрываючы яго ўнутраны свет. Такі змест і ўспрымаецца слухачамі як па-грамадзянску ўзважанае і сэрцам праверанае выказванне мастака пра час і пра сябе. Гэта мы яшчэ раз адчулі падчас выканання Першай сімфоніі Г. Вагнера Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам дырыжора Ю. Яфімава.

**Анатоль БАГАТЫРОЎ,**
**народны артыст БССР.**

# ЯШЧЭ АДЗІН ЭКЗАМЕН

Адным з апошніх канцэртаў сёлетняга сезона быў вечар савецкай камернай музыкі. На ім галоўнай дзеючай асобай стаў камерны аркестр Беларускай філармоніі, якім кіруе дырыжор Ю. Цырук. Калектыў паставіў перад сабой задачу — даць разнастайную праграму з твораў розных па стылі і характары кампазітараў. Таму ад кожнага музыканта патрабавалася асабліва ўдумлівае «прачытанне тэксту», адточанасць усіх дэталяў, дакладнасць штрыхоў і нюансаў. Канцэрт паказаў, што музыканты могуць з гонарам выходзіць і з цяжкага становішча. А дырыжор Ю. Цырук прадстаў у канцэрце і сталым мастаком-інтэрпрэтатарам складанай і цікавай праграмы, і аўтарам раду пералажэнняў для камернага аркестра.

Цікавым нумарам праграмы першага аддзялення канцэрта быў вакальны цыкл Э. Тырманд «Зямное прыцягненне». Ён складаецца з пяці маналогаў на вершы М. Танка «О, як лёгка ісці», «Калі б я забыў», «Хоць сад абтрэсены», «Ідучы на сустрэчу», «Парог». Музычная драматургія цыкла падкрэслівае агульную іх тэму — чалавек і яго абавязак. Па-музычнаму чула, захоўваючы багацце паэтычнага тэксту, раскрываючы яго ўнутраную мелодыку, Э. Тырманд стварыла эмацыянальна насычаны твор, характэрны палымянасцю выказвання, лірызмам філасофскага роздуму, дасціпным народным гумарам.

Цыкл вельмі складаны для выканання. У партыі саліста пераважае чалавечая гаворка з яе свабоднай рытмікай і зменай памераў. Выразныя рэчытацыі на адзіным гуку часта пераходзяць у шырокія распевы. Вялікую ролю адыгрываюць і «гукавыя» паўзы. Саліст філармоніі С. Машкоў (бас), на маю думку, ярка выканаў партыю ў цесным творчым кантакце з аркестрам. Хаця Э. Тырманд задумала свой цыкл як дуэт голасу і фартэпіяна (у такой рэдакцыі ён паспяхова і выконваўся), аркестравае пералажэнне фартэпіяннай партыі, якое зрабіў Ю. Цырук, пакінула надзвычай прыемнае ўражанне і адцяніла новыя якасці музыкі і вершаў. (Прыкра толькі, што ў праграмцы канцэрта вершы М. Танка надрукаваны ў рускім перакладзе, значна горшым за арыгінал).

У першым аддзяленні канцэрта аркестр выканаў і некалькі інструментальных п'ес. Сярод арыгінальных твораў было і Алегра І. Лучанка. Гэта пералажэнне адной з частак яго струннага квартэта, узбагачанае новымі тэмбравымі нюансамі і актыўнай рытмікай. Слухаць Алегра ў выкананні камернага аркестра прыемна.

Выконваўся таксама і «Калаж на тэму BACH» — эстонскага кампазітара А. Пярта — своеасаблівая маленькая сюіта з трох нумароў. Кампазітар звяртаецца толькі да меласу і да форм старадаўняй музыкі: свабодна-імправізацыйная Таката, велічная, з адценнем трагізму народна-танцавальная Сарабанда, шматгалосая паліфанічная фантазія — Рычэркар. Але сюіта гучыць ярка па-сучаснаму і ў гарманічнай мове, і ў аркестравых фарбах. Адсюль і сама назва — Калаж — «склейванне»; тут як бы склейваецца, спалучаецца мінулае і сучаснае.

З вялікай цеплынёй і задушэўнасцю выконвалася Арыя для скрыпкі ў суправаджэнні аркестра кампазітара Г. Галыніна (саліст — лаўрэат Усесаюзнага і Міжнароднага конкурсаў Р. Нодэль).

Пры ўсёй складанасці і шматграннасці праграмы першага аддзялення канцэрта адказны экзамен на сталасць аркестр трымаў усё ж ў другім аддзяленні, у якім выконвалася Чатырнаццатая сімфонія Д. Шастаковіча. Аб гэтым новым творы вялікага савецкага кампазітара шмат і падрабязна пісалася ўжо ў друку. Шырокае трагедыйнае палатно Д. Шастаковіча прысвечана адвечным у мастацтве тэмам жыцця і смерці. Твор накіраваны супраць насілля, супраць сацыяльнай несправядлівасці. Для канкрэтызацыі зместу кампазітар карыстаецца словам — гучаць вершы Апалінэра, Лоркі, Кюхельбекера і Рыльке. У выкананні ўсіх адзінаццаці частак сімфоніі ўдзельнічаюць два вакалісты, якія то салірyюць па чарзе, то ствараюць сцэнкі-дыялогі, то зліваюцца ў дуэце. Партыю сапрана ў канцэрце выконвала салістка Маскоўскай дзяржаўнай філармоніі М. Мірошнікава, баса — С. Машкоў. Раскрываючы вобразы герояў сімфоніі, выканаўцы паказалі сваё ўменне творча пераўвасабляцца, тактоўна падкрэсліць жанравую своеасаблівасць кожнай з частак твора і перадаць трапяткі настрой музыкі.

Праўда, часам салісты не вельмі выразна ў дыкцыі данасілі да залы кожнае слова, а гэта ў 14-й так важна!

Мы ўжо гаварылі, што найбольш ярка аркестр і дырыжор праявілі сябе ў выкананні сімфоніі Шастаковіча. Нягледзячы на тое, што ў ёй мноства кантрастных частак, твор прагучаў, як кажуць, на адзіным дыханні з лагічнай, па-мастацку апраўданай расстаноўкай акцэнтаў. Струнная група аркестра надзвычай добра сыграла складаную партыю, дзе трэба было высокае майстэрства ў кантыленных эпізодах і ў гучанні «шчыпковых» інструментаў. У цэлым найбольш удалымі ў выкананні аркестра здаюцца карціна оргіі ў таверне, вобраз Рэйна з выплываючай лодкай, ваенны марш Смерці і фінальная частка.

Гэты канцэрт камернай музыкі выклікаў гарачыя сімпатыі і адабрэнне слухачоў.

**С. НІСНЕВІЧ.**

# ВАЛЕРЫЙ КУЧЫНСКІ—

## УДЗЕЛЬНІК IV МІЖНАРОДНАГА КОНКУРСУ ІМЯ ЧАЙКОЎСКАГА

Пасля трох адборачных тураў права ўдзельнічаць у гэтым спаборніцтве маладых музыкантаў і спевакоў заваяваў студэнт-выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага Валерый Кучынскі.

Дваццацітрохгадовы спявак — ужо лаўрэат Усесаюзнага конкурсу маладых вакалістаў імя М. Глінкі. Цяпер Валерый Кучынскі стажыруецца ў Беларускім тэатры оперы і балета і ўдзельнічае ў філарманічных канцэртах.

IV Міжнародны конкурс імя Чайкоўскага адкрываецца 2 чэрвеня ў Маскве. Папулярнасць гэтага творчага спаборніцтва маладых музыкантаў і спевакоў незвычайна вялікая. Ужо зараз на ўдзел у конкурсе паступілі заяўкі ад 258 музыкантаў і спевакоў з 35 краін свету.

# УЛАДАК З КАЗІМІРАЎКІ

Ісідар БАС



*«Ён заўсёды хваліў і заахвочваў мяне да пісання».*

Янка КУПАЛА.

**I.**

У лістападзе 1908 года газета «Наша ніва» (№ 24) змясціла на сваіх старонках верш Янкі Купалы «З песень беззямельнага». Прысвечаны ён Уладзіміру Іванавічу Самойлу.

Многім чытачам «Нашай нівы» гэтае імя было знаёма. Праўда, свае матэрыялы Самойла падпісваў ініцыяламі У. С., альбо скарочана Ул. С., У. С —а. Але так рабілі і іншыя супрацоўнікі і карэспандэнты беларускай газеты, у тым ліку і Янка Купала. Прозвішча Самойлы Купала таксама напісаў скарочана: «Прысвячаю Ул. Ів. С—а.

Некаторыя свае матэрыялы Самойла падпісваў і псеўданімам «Уладак з Казіміраўкі».

Казіміраўка (Казімерава)—гэта фальварак, які належаў бацькам Самойлы і куды ён прыязджаў на канікулы кожнае лета. Фальварак суседнічаў з хутарам Мачаны, дзе жылі сваякі бацькі Купалы—Дамініка Луцэвіча. Тут Янка Купала і пазнаёміўся з Уладзімірам Самойлам. «З таго часу, — піша ў сваіх успамінах жонка паэта Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, — пачалася іх дружба, якая цягнулася доўгія гады».

Самойла быў па ўзросце старэйшы за Купалу. Ён ужо займаўся ва універсітэце і слухаць яго было вельмі цікава. Да таго ж, сын гаспадара Казіміраўкі быў чалавекам сур'ёзным, і, па ўсім відаць, не цураўся простых людзей. Ён добразычліва і ўважліва адносіўся да сялянскага хлопчыка, які так прагна цягнуўся да навукі. І калі аднойчы той расказаў яму аб сваёй мары—атрымаць адукацыю, ахвотна згадзіўся дапамагчы Купалу падрыхтавацца да паступлення ў Мінскае рэальнае вучылішча.

«Усё лета начамі Ясь сядзеў за кнігамі»,—успамінае пра тыя часы сястра паэта Леакадзія Раманоўская. Відаць, гэта былі і падручнікі, якія яму прыносіў Самойла. Не адну гадзіну прасядзелі за імі рэпецітар-настаўнік і яго вучань.

Мінскае рэальнае вучылішча знаходзілася па Захар'еўскай вуліцы, д. № 110. Гэта была агульнаадукацыйная сярэдняя вучэбная ўстанова з шасцігадовым курсам і сёмым дадатковым класам. Паводле «Памятнай кніжкі Мінскай губерні на 1890 год» (Мінск, 1889, стар. 77) тут вывучалі такія прадметы, як матэматыка, фізіка, прыродазнаўства, геаграфія, руская літаратура, руская мова, гісторыя, французская і нямецкая мовы, чарчэнне, маляванне і некаторыя іншыя. Матэматыку выкладаў сам дырэктар вучылішча Іван Іванавіч Самойла. Сын Уладзімір неаднойчы расказваў яму пра Купалу. І Самойла-бацька, які ўвогуле быў чалавекам гуманным, згадзіўся прыняць яго ў вучылішча без экзаменаў.

Як вядома, Купалу так і не давялося займацца ў рэальным вучылішчы. Але назаўсёды застаўся ў памяці рэпецітар-сябар з Казіміраўкі.

**II.**

Мачаны, Казіміраўка... З тых часоў прайшоў не адзін год. Купала цяпер стала жыў у Вільні, дзе працаваў бібліятэкарам і актыўна супрацоўнічаў у «Нашай ніве».

Самойла даўно ўжо закончыў універсітэт і з'яўляўся адным з рэдактараў газеты «Минский курьер». Ён часта прыязджаў у Вільню, дзе бачыўся з Купалам. Іх сустрэчы заўсёды былі прыемнымі для абодвух.

Тое, што свой верш «З песень беззямельнага» паэт прысвяціў былому свайму настаўніку, сведчыла аб глыбокай павазе да яго Купалы. Павазе і ўдзячнасці. І не толькі за тое лета ў Мачанах. Уладзімір Самойла і ў наступныя гады сардэчна клапаціўся аб сваім маладым сябру. Неаднойчы сустракаўся ён з Купалам, калі сям'я Луцэвічаў у 1904 годзе пераехала ў Бараўцы, што недалёка ад Мінска, і пазней, калі Купала праз год пачаў працаваць практыкантам у бровары Сёмкава, што таксама знаходзіўся паблізу Мінска.

«Я ўжо тады пісаў свае вершы, паказваў іх У. І. Самойлу,—успамінаў пазней Купала.—Ён заўсёды хваліў і заахвочваў мяне да пісання».

«У. Самойла,—сведчыць Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, якая добра яго ведала,—вельмі асцярожна і ўважліва адносіўся да творчых пачынанняў Янкі Купалы. Ён можа першы зразумеў, што яго малады сябар—чалавек з вялікім паэтычным талентам, і акружаў яго ўвагай, імкнуўся стварыць яму ўмовы для росквіту яго здольнасцей. Ён баяўся, што цяжкія ўмовы жыцця могуць загубіць талент Янкі Купалы».

Пры самым блізкім удзеле Самойлы ў маі 1905 года ў газеце «Северо-Западный край», з'явіўся верш Янкі Купалы «Мужык». Гэта было першае выступленне будучага народнага песняра ў беларускай літаратуры. Яно мела вялікае значэнне для творчага лёсу паэта, бо, па яго словах, ён ужо свядома ведаў, што і як яму пісаць. Беларуская газета тады яшчэ не выходзіла, і хто ведае, калі б не садзейнічанне Самойлы, Купала, можа, пачаў бы друкавацца значна пазней. Вядома, што першы яго верш у «Нашай ніве» рэдакцыя змясціла толькі ў маі 1907 года.

Яшчэ да выхаду з друку, вясною 1908 года, першага зборніка Купалы «Жалейка» Самойла чытаў вершы паэта ў рукапісу. Іх яму дасылаў Купала па пошце альбо перадаваў пры асабістай сустрэчы. «Калі я жыў на вёсцы,—піша паэт у сваёй аўтабіяграфіі,— многа напісанага я перадаваў Самойлу». Апошні быў знаёмы з Б. І. Эпімах-Шыпілам — відным дзеячом беларускай культуры, адным з арганізатараў пецярбургскай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», і калі паэт падрыхтаваў у лістападзе 1906 года сваю першую вершаваную кніжку, Самойла пераслаў яе ў Пецярбург, дзе яна і была надрукавана.

Уладзімір Самойла адгукнуўся на выхад «Жалейкі» двума рэцэнзіямі. Першая надрукавана ў газеце «Наша ніва» 15 (28) верасня таго ж 1908 года за подпісам «Уладак з Казіміраўкі». «Песні Купалы,— гаворыцца ў рэцэнзіі,— гэта люстра, у каторай свеціцца душа беларуса; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самой глыбіні народнай душы, гэта «крык — што жыве Беларусь». І хто раней не верыў, што беларускі народ зможа прачнуцца і найсці сваёй дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы... захацелі «людзьмі звацца».

Асабліва спадабаліся рэцэнзенту тыя вершы Купалы, у якіх паэт «кліча да вялікай працы» і дзе малююцца «жывыя вобразы беларускіх сялян і іх жыццё». Паэт, гаворыць Самойла, выказаў у «Жалейцы» тыя думкі народа, якія жывуць у народзе». Аўтар рэцэнзіі выказвае надзею, што вершы Купалы знойдуць сабе дарогу да кожнай вясковай хаты, дапамогуць селяніну «расці і развівацца... разам з братнімі суседнімі народамі».

Маючы на ўвазе тых, хто адмаўляў існаванне беларускага мастацкага слова і лічыў беларускую мову «дубоваю», якой месца толькі ля «мужыцкай задворкі» і ля «ўбогіх мужыцкіх палёў», Самойла ўказвае на Купалу, «паэта народнага», творчасць якога адзначана высокімі мастацкімі якасцямі.

Другая рэцэнзія Самойлы была змешчана 23 жніўня 1908 года ў газеце «Минский курьер», якая выходзіла на рускай мове. Называлася яна «Вялікае свята». Вялікім святам для беларускага народа лічыць Самойла з'яўленне ў свет зборніка «Жалейка». «Мы прысутнічаем,— урачыста адзначае ён,— пры гістарычнай падзеі, надзвычайнай для края важнасці». У вершах Купалы,— піша ён,— «сонца жывой, сапраўднай паэзіі», На думку рэцэнзента, паэт адлюстраваў у сваіх творах усе лепшыя якасці разумнага і шмат чаму навучанага за доўгія часы прыгнёту беларускага селяніна. Яны — сапраўдная «нацыянальная скарбніца», магутны рычаг для разумовага і духоўнага развіцця народа. У іх выразна чуваць настроі і спадзяванні «народнай душы».

Уладзімір Самойла выказвае надзею, што прыйдуць лепшыя часы, і тады беларускі народ адплоціць паэту за яго подзвіг бессмяротнасцю. «Няхай ён будзе для беларуса тым, чым быў Шаўчэнка для Украіны! — заключае Самойла сваю рэцэнзію на вершаваны зборнік Купалы.— Пажадаем яму творчых сіл для новых песень і пасадзейнічаем самаму шырокаму распаўсюджанню гэтага першага твора сапраўднага беларускага паэта».

Сам Уладзімір Самойла садзейнічаў распаўсюджанню вершаў «Жалейкі», калі яны яшчэ не з'явіліся ў друку. Ён перадаваў іх перапісанымі ад рукі знаёмым і іншым асобам. А калі стаў працаваць у газеце «Минский курьер», дык пераклаў і надрукаваў у ёй (13 красавіка 1908 г.) верш Купалы, які пачынаецца радком «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні». Гэта, бадай, першы пераклад твораў паэта на рускую мову. На жаль, ён застаўся малавядомым нават нашаму беларускаму літаратуразнаўству.

Як бачым, Самойла з захапленнем сустрэў вершаваную кніжку свайго сябра-паэта і вельмі высока, у адрозненне ад некаторых іншых, напрыклад, Ядвігіна Ш., ацаніў яе ў друку. Праўда, у сваіх рэцэнзіях ён пазбягае аналізаваць той ці іншы верш з сацыяльнага боку, што тлумачыцца, на нашу думку, абмежаванасцю светапогляду Самойлы. Бясспрэчна, ён належыў да прагрэсіўнай часткі беларускай інтэлігенцыі, супрацоўнічаў у газеце «Северо-Западный край», якая знаходзілася пад уплывам Мінскай групы РСДРП. Але Самойла не быў рэвалюцыйным дэмакратам, як Янка Купала. Яго прагрэсіўнасць, як гэта можна бачыць з таго, што напісана ім і надрукавана ў тагачаснай прэсе, не ішла далей крытыкі асобных бакоў самадзяржаўнага ладу і патрабаванняў тых ці іншых сацыяльных рэформ. Хоць Купала раіўся з ім, прыносіў яму свае вершы і з павагай, удзячнасцю ставіўся да Самойлы, але ён не мог не бачыць, што погляды яго старэйшага сябра на сучасную яму рэчаіснасць, на тую барацьбу, якую вядуць працоўныя Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне — абмежаваныя. Купалу вабіла ў Самойле галоўным чынам яго сардэчнасць, сур'ёзны погляд на літаратуру, яго адукаванасць, высокая культура. З аўтабіяграфіі паэта можна зрабіць вывад, што калі Самойла і ўплываў на Купалу, дык галоўным чынам толькі ў літаратурных адносінах. «Якія сустрэчы зрабілі ўплыў на мяне ў літаратурных адносінах? — піша Купала.— Цяжка сказаць. У перыяд знаёмства з памешчыкам Чаховічам я тады не пісаў яшчэ. Застаюцца з таго часу Ядвігін Ш. і У. І. Самойла. Абодва яны людзі сур'ёзныя, культурныя і самі літаратары, супрацоўнічалі ў газетах...».

Пяру Уладзіміра Самойлы належыць і першая па часу рэцэнзія на драматычную паэму Я. Купалы «Адвечная песня», якая выйшла ў Пецярбургу асобным выданнем у першай палове 1910 года. Рэцэнзія на яе змешчана ў газеце «Наша ніва» ў нумары 38 таго ж 1910 года.

«Імя Янкі Купалы,— адзначае Самойла ў пачатку рэцэнзіі,— многа гаворыць нашаму сэрцу: яно ўжо стала дарагім для ўсіх беларусаў, да каторых дайшла тры гады таму назад яго «Жалейка»; яно дорага і тым тысячам чытачоў «Нашай нівы», што на старонках гэтай газеты прывыклі спатыкаць імя Купалы».

Як і ў рэцэнзіях на «Жалейку», Самойла і ў гэтым артыкуле высока ацэньвае новы твор паэта, прычым, у адрозненне ад думкі некаторых крытыкаў, якія звязвалі «Адвечную песню» з сімвалізмам, ён акцэнтуе ўвагу чытача на рэальнасці зместу паэмы, на «жывой энергіі, яснай і праўдзівай», якой яна адзначана, як і наогул уся творчасць пісьменніка — «нацыянальная... і агульналюдская» адначасова.

Купала ў гэты час займаўся ў Петраградзе на агульнаадукацыйных курсах Чарняева. Невядома, ці бачыўся альбо перапісваўся ён з Самойлам, але добрыя, сяброўскія адносіны паміж імі працягваліся, што можна бачыць хаця б з таго, што Купала, калі ён зноў прыехаў у Вільню, бываў на кватэры ў Самойлы.

**III.**

Купала, як адзначалася вышэй, пісаў пра Самойлу, што ён быў культурным чалавекам. Сапраўды, дыяпазон яго ведаў вельмі шырокі. Перагортваючы старонкі газеты «Минский курьер» за 1908 год, мы сустрэлі артыкулы Самойлы пра Ібсена, Мэтэрлінка, Верасаева, Ю. Славацкага, П. Струве, Ус. Меерхольда, Г. Гофманстапя і многіх іншых вядомых людзей. Шэраг яго артыкулаў прысвечаны разгляду сучаснай яму рускай літаратуры. Далёка не з усімі думкамі і меркаваннямі, выказанымі Самойлам, можна пагадзіцца. Ёсць у яго атрыкулах і памылковыя, глыбока суб'ектыўныя сцвярджэнні. Але напісаны яны таленавіта, і чытач адразу бачыў высокаадукаванасць, інтэлектуальнасць іх аўтара.

Вастрынёй, палемічным запалам, грунтоўнасцю адзначаны і публіцыстычныя артыкулы Самойлы, у тым ліку і тыя, дзе ён выступае ў абарону нацыянальнай беларускай культуры і беларускай мовы.

Вядома, што ў часы рэвалюцыі 1905—1907 гадоў узніклі першыя легальныя беларускія газеты, выдавецкія таварыствы і суполкі. Наглядаецца бурны рост новай беларускай літаратуры, што асабліва праявілася ў творчасці Купалы, Коласа, Цёткі і іншых пісьменнікаў, якія ўголас заявілі на ўвесь свет, што дзесяцігоддзі прыгнёту, заняволення не зламалі духоўных і маральных сіл народа. Як слушна заўважыў М. Багдановіч, беларускае друкаванае слова зрабілася пільнай неабходнасцю і хутка атрымала небывалы размах.

Усё гэта выклікала шалёную нянавісць з боку розных рэакцыянераў, буржуазных нацыяналістаў і іншых. Яны нават, як паведамляла газета «Витебские губернские ведомости» ад 20 жніўня 1908 года, сабраліся ў Вільні «на з'езд», каб абвясціць, што «ніякай беларускай мовы як такой «не існуе» і што быццам народу «зусім не знаёмы тэрмін беларусы».

Зняважліва, з пагардай ставіліся да беларускай літаратуры і мовы і такія рэакцыйныя органы друку, як «Минское слово» і «Минские епархиальные ведомости», якія рэдагаваліся цемрашаламі Шмітам і Скрыпчанка. Супраць іх Уладзімір Самойла напісаў шэраг артыкулаў пад назвай «Нататкі» (№№ 5, 10, 46, 58, 60), у якіх выкрывае заклятых ворагаў нацыянальнай культуры беларусаў. Ён патрабуе ад улад, каб у школах выкладалася беларуская мова. «Абавязковай умовай развіцця духоўнага жыцця народа, — піша Самойла, — з'яўляецца вывучэнне яго роднай мовы ў школе. Без гэтага ніякія народныя універсітэты, ні самыя таленавітыя лектары, настаўнікі і асветнікі нічога не зробяць, не абудзяць цікавасць да сваёй навукі, не абудзяць самастойнага жыцця і творчасці народа».

Артыкулы Самойлы выклікалі цікавасць перадавой грамадскасці. Доктар Н. Чарноцкі, напрыклад, прыслаў у рэдакцыю «Минского курьера» ліст, у якім пісаў: «Спадзяюся, што голас аўтара «Нататак» не будзе марным лямантам у пустыні».

Паведамляючы чытачам газеты, што ў Пецярбургскім універсітэце акадэмік Шахматаў, прафесар Бодуэн дэ Куртэнэ збіраюцца чытаць лекцыі па ўкраінскай філалогіі, Самойла з горыччу зазначае ў заметцы «Нацыянальная школа»: «Калі дойдзе чарга і да нашай забытай Беларусі!».

У газеце «Минский курьер» надрукавана многа вершаў Самойлы, якія паказваюць, што сябра Купалы быў і здольным паэтам. У адным з іх Самойла высмейвае тых, хто дзеля «звонкай манеты» мірыцца з акаляючай «ілжывасцю». У другім вершы паэт заклікае ў «цяжкую гадзіну» рэакцыі «не падаць духам» і смела змагацца з «мярзотнасцю» жыцця. «Няхай, — звяртаецца паэт да свайго сучасніка, — шыпяць і выюць на цябе і псы, і гадзюкі», «няхай ты загінеш» у барацьбе, але «па тваіх слядах пойдуць іншыя», якім усё ж давядзецца ўбачыць лепшае жыццё.

Паэтычная творчасць Самойлы невядома ні нашаму літаратуразнаўству, ні тым больш чытачу. Таму прапануем тут два яго вершы, а таксама зроблены ім пераклад верша Купалы, які пачынаецца радком «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні». Яны надрукаваны ў газеце «Минский курьер» (№№ 1, 61, 67 за 1908 год) і могуць даць некаторае ўяўленне аб паэтычных здольнасцях сябра Купалы.

Уладзімір САМОЙЛА

## ДИТЯ СОЛНЦА

Одуванчика пушинка
С ветром понеслась,—
И летала, как снежинка,
В воздухе кружась.

Понеслась над всей природой —
В золоте лучей,—
Упиваяся свободой,
Смелостью своей!

В упоеньи ветра силу
За свою приняв,
Возгордилась и забыла
Край родимых трав.

Но восторгов чудных время
Быстро пронеслось...
Без земли святое семя
В ней не развилось...

Тосковало по отчизне
В золоте лучей...
И зародыш вечной жизни
Так и умер в ней.

## БЕЛОРУСУ

**Из Янука Купалы**

(С белоруссково «Жалейка»; СПБ)

Сердце пусть в груди порвется,
Пан пусть выгонит из хаты,
Буду петь, пока поется! —
А ведь там возьмут в солдаты.
Песням—сердце, жизнь,
свобода!
Пусть душа развеселится!
Пусть для бедного народа
В песне мир преобразится!

Пусть на ниве ли, на пашне,
С топором, иль за сохою,
За работою-ль домашней,—
Песней тешится родною!
Пусть ее не постыдятся,
Пусть родное слово ценит,
Языку, в каком родится,
Для чужого не изменит!

Будет петь мой голос громкий,
Чтоб глаза его раскрылись,
Чтоб души его потемки
Светом знания озарились!
Темен мой народ убогий,
Сил своих не сознавая,
Он живет, как зверь в берлоге
А ведь в нем душа живая!

Сердце нежное в нем дико:
Пёс издох—он горько плачет...
И губить свой дух великой
Ничего ему не значит!..
Так проснись, народ забытый,
Притерпевшийся
к страданью! —
Счастья путь лежит
открытый! —
Силе, праву—и желанью!

## НЕ ОЧЕНЬ

Мир не строг — он лишь тем
озабочен,
Чтоб во всем была мера —
«не очень».
Острый ум — хорошо!..
Но не очень
Пусть он будет опасно отточен...
Глуп?.. сойдет!. Только лишь бы
не очень
Уж до святости был...
не порочен!
Честен?.. гм — ничего...
Но не очень
Будь так резок, придирчиво
точен...
Скот?— Ну что ж! —
Лишь бы только не очень
Безобразно по-свински порочен...
Добр — похвально! Но только
не очень
Будь чужою бедой озабочен.
Смел, решителен... что-ж! —
Но не очень
Будь в решеньях бессмысленно
прочен.
Мудрость в том, чтоб постичь,
что не очень
Мир тобой, а ты им озабочен...



РЭСПУБЛІКАНСКАЯ ВЫСТАЎКА-КОНКУРС ТВОРАЎ САМАДЗЕЙНЫХ МАСТАКОЎ ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОГА МАСТАЦТВА І НАРОДНЫХ МАЙСТРОЎ-УМЕЛЬЦАЎ, ПРЫСВЕЧАНАЯ ЛЕНІНСКАМУ ЮБІЛЕЮ.

Гліняныя цацкі гамяльчанкі Соф'і Малатковай: «Чаму ж нам не пець?», «Цыбулінка», «Памідорчык», «Капусцінка» і «Шчаслівая сям'я».

Георгій ВЫЛЧАЎ

# СВЯТА СЛАВЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

*ПІСЬМО З САФІІ*

ЗАЎСЕДЫ так бывае — калі пачнеш пра нешта думаць заранёй, рыхтавацца да яго, то міжволі расхвалюешся, распаліш сябе. І вось, каб не страціць той каштоўны душэўны запал, гарэнне — верныя прыкметы натхнення — саджуся і пішу зноў.

На нашай зямлі дзень 24 мая, дзень Кірыла і Мяфодзія — не толькі даніна традыцыі. Ён даўно ўжо стаў сінонімам усенароднага імкнення да святла навукі і асветы, усведамлення непарыўнай сувязі балгарскага народа з народамі славянскай супольнасці. Святочныя ўрачыстасці ў гэты дзень выліваюцца на вуліцы і плошчы гарадоў і вёсак, у іх удзельнічаюць усе — ад малога да старога, свята робіцца ўсенародным.

Гэты дзень з'яўляецца таксама днём роздуму над нашай дружбай, славянскім інтэрнацыяналізмам, днем падрахавання нашых культурных здабыткаў. Няма ніякіх магчымасцей расказаць пра ўсе каналы балгара-славянскіх сувязей. Пра гэта ёсць шматаркушныя даследаванні на ўсіх славянскіх мовах. Нямала іх — пра балгарска-беларускія сувязі, узаемнае пранікненне культур. Сёння раскажу я толькі пра дружбу нашых літаратур і нашых літаратараў. 24 мая абавязвае мяне расказаць пра гэта і тыя сустрэчы, якія адбыліся па маёй ініцыятыве, пра шчырыя размовы аб людзях, якія паслухаліся голасу сэрца і, нягледзячы на ўсе цяжкасці, сумленна нясуць ад народа да народа культурныя здабыткі.

Самым старэйшым сябрам беларускага народа і яго літаратуры з'яўляецца ў нас пісьменнік і грамадскі дзеяч, зараз галоўны рэдактар часопіса «Българо-съветска дружба» Ангел Тодараў. Яго імя добра ведаюць і старэйшыны пісьменніцкай дружыны Беларусі. Першым я і наведаў Ангела Тодарава. Яго адказ на мае пытанні — з якога часу перакладаеце з беларускай паэзіі і якая ваша думка пра яе?—выліўся ва ўсхваляваны лірычны маналог.

— Пацягнула мяне да беларускай літаратуры, можна сказаць, не толькі па сваёй ахвоце,—ласкава ўсміхаўся ён.— У трыццатых гадах у нас выходзіў часопіс «Работнически литературен фронт» (РЛФ) — калектыўны орган суполкі пралетарскіх пісьменнікаў. У пачатку трыццатага года я і пераклаў для гэтага часопіса верш Андрэя Александровіча «Бор» («Сасна»). Па просьбе пісьменнікаў я дабавіў да гэтага верша яшчэ цэлую старонку тэксту, дзе спрабаваў выказаць сваю думку пра творчасць гэтага паэта, пра беларускую паэзію. Падпісаўся я тады псеўданімам «Стр. Р.» — Страшымір Руданаў. Здаецца, гэта ўвогуле быў першы пераклад з беларускай літаратуры ў нас, у Балгарыі.

Пасля верасня 1944 года я не раз выступаў у друку, пісаў пра савецкую літаратуру, пра сучасных майстроў мастацкага слова Савецкай Беларусі. А потым мне пашчасціла наведаць БССР. Аб сваіх уражаннях з гэтай паездкі я з радасцю і хваляваннем напісаў некалькі нарысаў. Надрукаваны яны былі ў час Дэкады беларускай культуры ў Балгарыі ў 1965 годзе і пасля яе... Да 60-годдзя Петруся Броўкі пераклаў яго верш «Септември», надрукаваны ён быў у газеце «Литературен фронт». Гэта спачатку, а потым верш не раз друкаваўся і ў іншых выданнях... Выйшаў з друку ў Балгарыі і мой цыкл вершаў пра Беларусь, сярод іх такія, напрыклад, як «Мінск», «У музеі паэта», «Нарач». Здаецца, Ніл Гілевіч, наш беларускі сябра, пераклаў іх на беларускую мову...

Але што гэта я ўсё пра сябе... Часопіс які я зараз рэдагую, заўсёды з задавальненнем дае слова беларускім пісьменнікам і паэтам. Нават цяжка палічыць усе імёны і творы, якія з'явіліся на старонках нашага выдання.

Беларускую літаратуру, багатую традыцыямі і вельмі сучасную па гучанні, я не проста люблю. Я жыву ёю... У маёй бібліятэцы шмат беларускіх паэтаў і пісьменнікаў як на беларускай, так і на рускай мовах. Я свабодна, з асалодай чытаю па-беларуску. З цікавасцю сачу за беларускай перыёдыкай — мы атрымліваем беларускія літаратурныя часопісы. Дый не толькі я захапляюся... Вельмі радасна, што беларуская літаратура знаходзіць сярод нашых чытачоў гарачых прыхільнікаў, што рады аматараў беларускай паэзіі няспынна павялічваюцца...

....У выдавецтве «Български писател» я застаў адразу і Івана Давыдкава — галоўнага рэдактара, і Андрэя Германава, супрацоўніка аддзела паэзіі. Дазвольце мне, беларускія сябры, не знаёміць вас з імі. У Беларусі іх даўно добра ведаюць. Яны і бывалі часта ў вас, і пасябравалі з многімі. Хутка ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе паэтычны зборнік Давыдкава, які я вельмі раю пачытаць.

На стале ў Давыдкава ляжаў новы паэтычны зборнік Сцяпана Гаўрусёва, а ў Германава — вершы Анатоля Вярцінскага. Яны працавалі над перакладамі іх. Справа ў тым, што выдавецтва «Народна култура» ў 1971 годзе выпускае вялікі зборнік «Сучасныя беларускія паэты» («Паэтычны партрэт аднаго пакалення»). Для гэтай кніжкі Германаў і Давыдкаў і рыхтавалі пераклады.

— Некалькі гадоў назад разам з нашым паэтам Ніколам Ланковым я ўпершыню наведаў Беларусь, — сказаў мне Іван Давыдкаў. — Тады і нарадзілася мая любоў да гэтай выдатнай краіны, дзе жыве Паэзія вялікай праўды і сапраўднай прыгажосці. Вывучыў беларускую мову, чытаю зараз беларускія кнігі і часопісы, перакладаю з беларускай вось ужо некалькі гадоў: з Купалы, Коласа, Танка, Гілевіча і, асабліва, з Панчанкі і Вялюгіна. Падабаецца мне паэзія Аляксея Пысіна і Сцяпана Гаўрусёва, таксама перакладаю іх з любоўю. Напісаў я і свае вершы пра Беларусь, напрыклад «Лилавие белорусские пески»...

— Вельмі, вельмі шчырая і народная і ў той жа час сучасная беларуская паэзія, — такімі словамі сустрэў мяне Германаў. — Няма ў беларускіх паэтаў эксперыментаў дзеля эксперыментаў. Тое, што я наведаў Беларусь, пасябраваў з многімі паэтамі-аднагодкамі, шчыра гутарыў з імі, дало мне вельмі многа. Зразумела, я шмат перакладаў з Купалы, Броўкі, Коласа, але больш за ўсё апошні час — з Гілевіча і Вярцінскага...

Ад сябе ж я дабаўлю, што Германаў не толькі выдатны перакладчык, а і таленавіты, арыгінальны паэт. Яго верш «Беларускія снягі» быў адзначаны як лепшы твор мінулага года.

Мусіць больш за ўсё паэтычных перакладаў з беларускай у Найдана Вылчава. Паэтычны цэх паэтаў Беларусі ў яго перакладах ахопвае не адзін дзесятак імён. Зараз ён працуе над перакладамі вершаў Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна.

— Мы павінны клапаціцца і пра перакладчыцкую змену, — гаворыць Найдан Вылчаў. — Памагаю зараз Йардану Янкаву, сачу за яго работаю — і проста не нарадуюся. А памагаць трэба, часам нават старэйшыя беларускія паэты так здзіўляць новымі паэтычнымі прыёмамі, што проста радуешся іх творчай маладосці. Памятаю, у канцы 50-х гадоў наш Саюз пісьменнікаў паслаў вялікую групу літаратараў у саюзныя рэспублікі СССР. Мэта была высакародная — завязаць кантакты, наладзіць пераклады. Але, чамусьці, мала засталося ахвотнікаў перакладаць з тых літаратур. І калі зараз беларуская літаратура мае ў нас столькі пасрэднікаў, то гэта перш за ўсё заслуга самой беларускай паэзіі.

Потым размова ў нас перайшла на яго зборнік вершаў, які выйшаў у выдавецтве «Беларусь»...

А Стэфан Паптонеў стаў цікавіцца Беларуссю ўсяго з год назад. Але ён каля трох месяцаў прабыў у СССР. Прыехаўшы, здаў у выдавецтва «Народна младеж» кнігу нарысаў пра Беларусь, надрукаваў цыкл вершаў пра вашу рэспубліку («Памяць», «Ах, беларускі месяц чэрвень», «Рэфрэн», «Хатынь», «Адзін дзень у Мінску»), а таксама пераклады вершаў Барадуліна, Калачынскага, Бічэль-Загнетавай, а цяпер робіць пераклады з Макаля для зборніка «Сучасныя беларускія паэты».

Усе—А. Тодараў, І. Давыдкаў, Н. Вылчаў, А. Германаў, С. Паптонеў — прасілі перадаць праз «ЛІМ» беларускім пісьменнікам і паэтам, беларускаму народу шчырыя словы віншавання з 25-годдзем перамогі над гітлерызмам і сказаць, што яны былі і застаюцца сябрамі беларусаў, пакуль самі будуць лічыцца паэтамі і людзьмі.

А як жа з прозай? Трэба сказаць, што ў апошняе дзесяцігоддзе шанцуе і ёй. У асобных выданнях выйшлі ў нас творы Брыля, Шамякіна, Быкава, нямала твораў іншых пісьменнікаў друкуецца ў перыядычных выданнях. Шмат аўтараў было прадстаўлена ў калектыўным зборніку «Беларускія апавяданні». З кім бы зараз хацелася мне пагаварыць аб перакладах беларускай прозы, дык гэта з Хрыста Берберавым. На жаль, заўчасная смерць вырвала яго з радоў нашых перакладчыкаў. Але і тое, што яму ўдалося зрабіць, назаўсёды пакіне яго імя на скрыжалях нашай дружбы.

Заходзіў я яшчэ да рэдактара самага буйнога ў нас выдавецтва перакладной літаратуры «Народна култура» — Пенча Сімава. Гэта ў «Народнай културы» выйшлі і «Беларускія апавяданні», і ўсе асобныя перакладныя беларускія кнігі.

— Калі што цікавага з'яўляецца на літаратурным небасхіле, мы стараемся заўсёды ўключыць яго ў план, а беларускае — у самыя кароткія тэрміны, — сказаў ён. — Вось і на 1971 год у нас запланавана выдаць дылогію І. Мележа.

Стомлены паходамі і інтэрв'ю, вяртаюся я ў свой Інстытут літаратуры. Для паўнаты карціны захацелася мне спытаць трохі чаго і ў дырэктара інстытута прафесара Ст. Божкава, які нядаўна пабываў у Мінску і прывёз з паездкі самыя выдатныя ўспаміны.

— Мы таксама стараемся, каб у нашых навукова-даследчых планах заўсёды стаялі тэмы даследаванняў беларускай літаратуры, — сказаў ён. — У нашых выданнях і ў часопісе ўжо змешчана некалькі грунтоўных прац. Ды інакш і быць не можа: ніколі раней беларуская літаратура і культура не мелі ў балгарскай акадэмічнай навуцы столькі заступнікаў і даследчыкаў...

Ішоў я ад прафесара і думаў, што, мусіць, меў на ўвазе Ст. Божкаў і маю сціплую асобу сярод гэтых даследчыкаў. Па меры сваіх сіл і здольнасцей я таксама стараюся дзе-колечы рабіць карыснае для ўзаемаразумення нашых народаў, умацавання дружбы і братэрства, для росквіту супрацоўніцтва нашых культур, іх узаемнага ўзбагачэння.

